*“Каб усе былі адно” (Ян 17, 21)*




# Царква

№ 1 (24), 2000 ВЯЛІКІ ПОСТ

*Каляндар Юбілейнага Году прадугледжвае Юбілейныя пілігрымкі ў Рым прадстаўнікоў усіх Усходніх Каталіцкіх Цэркваў.*

*9-10 лютага 2000 году ў Рыме праходзілі ўрачыстыя набажэнствы з нагоды Пілігрымкі маранітаў з Лівану і іншых краінаў Блізкага Усходу, а таксама з краінаў, дзе пражывае дыяспара (ЗША, Паўднёвая Амерыка, Еўропа). З гэтай нагоды Рымскі Архірэй Ян Павел II у сваім прывітальным слове асабліва адзначыў: «Вашая пілігрымка ў Рым першая ў чарадзе пілігрымак Усходніх Каталіцкіх Цэркваў. Менавіта на працягу бліжэйшых месяцаў ў Рым прыбудуць Патрыярхі, Біскупы і вернікі таксама і іншых усходніх традыцыяў».*

*Гл. таксама с.2*

*На фотаздымку:*

**Яго Эмінэнцыя Кардынал Ахілес Сільвестрыні, Прэфект Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў, і Яго Блаславенства Насралях Пётр Сфэір, Патрыярх Антыёхіі Маранітаў, пасля Літургіі ў базіліцы Святой Марыі Найвялікай *(Santa Maria Maggiore)*.**

*Рым. Базіліка Santa Maria Maggiore, 9.02.2000. Яго Блаславенства Патрыярх Насралях Пётр Сфэір з біскупамі мараніцкай Царквы блаславуляе вернікаў.*

# Усходнія каталікі Царквы св. Марона святкуюць Юбілей-2000 з Папам



*Рым. Базіліка Santa Maria Maggiore, 9.02.2000. Прадстаўнік Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў прот. Люцыян Ламза вітае Патрыярха Мараніцкай Царквы.*

***9-10*** лютага 2000 году з нагоды святкаваньня Юбілейнага Году адбылася Пілігрымка ў Рым маранітаў з Лівану і іншых краінаў Блізкага Усходу, а таксама з краінаў, дзе пражывае дыяспара (ЗША, Паўднёвая Амерыка, Еўропа). Сусветную пілігрымку маранітаў узначальваў Патрыярх Антыяхійскі Маранітаў Яго Блаславенства Насралях Пётр Сфэір.

9 лютага — дзень царкоўнага ўспаміну святога Марона, арганізатара Мараніцкай Царквы. У гэты дзень у Рыме ў базіліцы Найсвятой Дзевы Марыі *Santa Maria Maggiore* Патрыярх Насралях Пётр Сфэір разам з біскупамі і святарамі адслужыў урачыстую святую Літургію паводле мараніцкага (сірыйска-антыяхійскага) абраду. У ёй бралі ўдзел таксама прадстаўнікі іншых Усходніх Каталіцкіх Цэркваў. Беларускую Грэка-Каталіцкую Царкву рэпрэзентаваў архімандрыт Сяргей Гаек.

Уранку 10 лютага 2000 году мараніцкія пілігрымы былі прынятыя на спецыяльнай аўдыенцыі Яго Святасцю Папам Янам Паўлам II. Звяртаючыся да мараніцкіх вернікаў, Святы Айцец сказаў: «Царкоўная еднасць, якую вы гэтак глыбока перажываеце ў гэтыя дні, у сваю чаргу, дапаможа вам браць усё больш дзейсны ўдзел у евангелізацыі свету, бо мараніцкая традыцыя — гэта яшчэ і «асаблівая магчымасць ажывіць той місіянерскі дынамізм і парыў, у якім пакліканы браць удзел кожны вернік».

Каляндар Юбілейнага Году прадугледжвае Юбілейныя пілігрымкі ў Рым прадстаўнікоў усіх Усходніх Каталіцкіх Цэркваў. Найбліжэйшая з іх — пілігрымка ўсходніх каталікоў халдэйскай традыцыі (халдэйцаў і малабарцаў). Урачыстасці з гэтае нагоды пройдуць у Рыме 18 сакавіка 2000 году.

# Ерархі трох хрысціянскіх канфесіяў разам адчыняюць Святыя Дзверы



*Рым. Базіліка св. Паўла, 18.01.2000. Святы Айцец Ян Павел II адчыняе Святыя Дзверы разам з праваслаўным Мітрапалітам Атанасіем і Прымасам Англіканскай Царквы Архібіскупам Джорджам Кэры.*

Упершыню ў гісторыі Папа адчыніў Святыя Дзверы разам з двума іншымі вялікімі хрысціянскімі Ерархамі: Мітрапалітам Атанасіем, прадстаўніком Усяленскага Канстанцінопальскага Патрыярха, і Прымасам Англіканскай Царквы Джорджам Кэры. Разам яны тройчы пастукалі ў браму апошніх Святых Дзвярэй сёлетняга Юбілею, і адчынілі іх. (Дарэчы, бронзавыя Святыя Дзверы храму св. Паўла за мурамі былі адлітыя ў 1070 годзе ў Канстанцінопалі, сталіцы Візантыйскай імперыі). А затым яны ўкленчылі на парозе, адзін каля аднаго.

Гэтай глыбока сімвалічнай урачыстасцю распачалося экуменічнае набажэнства ў базіліцы св. Паўла, у якім разам з Папам бралі ўдзел прадстаўнікі звыш 20 праваслаўных, пратэстанцкіх і англіканскіх Цэркваў ды рэлігійных арганізацыяў. Упершыню Евангелле, якім Рымскі Архірэй блаславіў удзельнікаў урачыстасці, яму перадаваў праваслаўны дыякан.

«Мы просім Хрыста прабачыць усім нам за ўсё, што ў гісторыі Царквы супярэчыла Яго планам еднасці Царквы»,— сказаў Папа падчас гэтага экуменічнага набажэнства. Рымскі Архірэй адзначыў таксама: «Мы ведаем, што між намі ўсё яшчэ існуе падзел, але мы павінны цвёрда стаць на шлях, які прывядзе нас да поўнай еднасці Хрыстовага Цела». Паколькі Царква была створана Хрыстом і належыць Яму, падзел не можа разглядацца як прыродная частка яе жыцця,— падкрэсліў Папа. Падзел хрысціянскіх Цэркваў ёсць сведчаннем чалавечай слабасці хрысціянаў. Ян Павел II адзначыў, што ўзаемная падрыхтоўка да еднасці азначацьме «змену нашых поглядаў, пашырэнне далягляду, вызнанне Святога Духа, які дзейнічае ў нашых братах і сёстрах».

Цырымонія завершылася спавяданнем агульнай веры, якое было зачытана на грэцкай, лацінскай і нямецкай мовах праваслаўным Александрыйскім Патрыярхам, Праваслаўным Румынскім Патрыярхам і прэзідэнтам Утрэхцкай Уніі.

Працяг гл. на с.5

# Папа на Святой Гары Сінай

> *«Дыялог паміж рэлігіямі існуе для таго, каб кожны з нас прыслухаўся да іншага і каб мы абменьваліся карыснымі думкамі, і заклікалі адзін аднаго да любові, ісціны і справядлівасці».*
>
> *З інтэрв'ю імама Магамеда Саед Тантаўі агенству Франс-прэс напярэдадні візіту Папы ў Егіпет*

**24-26** лютага 2000 году Святы Айцец Ян Павел II здзейсніў Юбілейную Пілігрымку на Гару Сінай (знаходзіцца ў Егіпце). На гэтай Святой Гары Майсею былі дадзеныя 10 Запаведзяў, тут ён быў пакліканы Богам вывесці свой народ з няволі.

Па прылёце 24 лютага ў Каір Святы Айцец склаў візіт Першаерарху Копцкай Артадаксальнай Царквы (дахалкідонскай) — Патрыярху Шэнудзе III, а таксама духоўнаму лідару мусульманаў Вялікаму Шэйху Магамеду Саед Тантаўі.

25 лютага ў саслужэнні Ян Павел II адправіў святую Літургію для католікаў усіх абрадаў у Палацы спорту ў Каіры, пасля чаго прамовіў гамілію. Вечарам таго самага дня Святы Айцец браў удзел у Экуменічным спатканні, якое адбылося ў новай копцкай каталіцкай катэдры ў гонар Найсвяцейшай Багародзіцы ў сталіцы Егіпту Каіры.

26 лютага Святы Айцец Ян Павел II наведаў царкву знакамітага праваслаўнага манастыра св. Кацярыны на Сінаі, дзе ён меў спатканне з Першаерархам аўтаномнай Праваслаўнай Царквы Сінаю архібіскупам Даміянам. Пасля Рымскі Архірэй адправіў Літургію Слова ў падножжы Святой Гары Сінай.

Візіт Святога Айца Яна Паўла II у Егіпет меў важнае экуменічнае значэнне, бо стасункі між мусульманскай большасцю і хрысціянскай меншасцю тут даволі напружаныя. Ёсць надзея, што ён паслужыў збліжэнню католікаў з праваслаўнымі коптамі і паляпшэнню стасункаў з мусульманамі.

*Увазе чытачоў «Царквы» прапануем таксама матэрыял мансіньёра Крыштафа Ніткевіча з Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў пра хрысціянаў Егіпту (гл. с.10-11).*

# Экуменічнае набажэнства на Іярдане

Тысячы хрысціянаў — прадстаўнікі розных канфесіяў — сабраліся 7 студзеня на беразе ракі Іярдан, у тым месцы, дзе, магчыма, хрысціўся Ісус Хрыстос (дакладнае месца хросту Гасподняга невядомае). Па традыцыі лічыцца, што гэтая падзея адбылася на тэрыторыі сённяшняга Ізраілю, непадалёк ад Галілейскага мора. Аднак шмат хто з гісторыкаў, археолагаў і царкоўных дзеячоў лічыць, што Ян Прадвеснік хрысціў Ісуса на тэрыторыі сучаснай Іярданіі, у мясцовасці Вады-Харар. На карысць гэтай версіі сведчаць не так даўно выяўленыя ў гэтым месцы старажытныя мазаікі. Улады Іярданіі на працягу двух гадоў перад пачаткам юбілейнага году рыхтаваліся адкрыць для паломнікаў гэтае месца, ствараючы адпаведную інфраструктуру. Чакаецца, што 20-26 сакавіка Вады-Харар наведае Ян Павел II.

7 студзеня ў Вады-Харары сабралася каля 20 000 хрысціянаў, якія сталі паўколам на беразе ракі Іярдан. Сумесную малітву ўзначалілі біскупы розных канфесіяў: каталіцкі, праваслаўны, англіканскі, а таксама афіцыйныя прадстаўнікі Армянскай Апостальскай, Копцкай, Сірыйскай і Лютаранскай Цэркваў. Казанне гаварыў мельхіцкі (грэка-каталіцкі) біскуп Георгі Эльмур. Экуменічнае набажэнства складалася з Літургіі Слова, абнаўлення хросных абяцанняў і запальвання двух тысячаў свечак у памяць пра 2000-годдзе хрысціянства. Напрыканцы набажэнства былі выпушчаны сем белых галубоў.

Экуменічнае набажэнства на беразе ракі Іярдан мела вялікае значэнне для іярданскіх хрысціянаў, якія складаюць каля 4% насельніцтва гэтае краіны. Улады краіны выказалі глыбокае задавальненне ў сувязі з тым, што падчас мерапрыемства на беразе ракі захоўваўся ідэальны парадак.

# У Польшчы падпісаны міжцаркоўны дакумент пра хрост

23 студзеня ў рамках Тыдня экуменічных малітваў за хрысціянскую еднасць, які традыцыйна ладзіцца ў Каталіцкай Царкве ў гэты перыяд, у Польшчы адбылося падпісанне важнага міжцаркоўнага дакументу асноўных Цэркваў Польшчы. Гэтым дакументам сведчыцца, што хрост, удзелены ў адной з Цэркваў, з'яўляецца сапраўдным для іншай. Гэты гістарычны дакумент падпісала Каталіцкая Царква і шэсць Цэркваў, аб'яднаных у Польскай Экуменічнай Радзе. Дэкларацыю не падпісалі толькі Евангельскія хрысціяне-баптысты, якія лічаць, што сапраўдны хрост ёсць толькі ў дарослым узросце.

Член Папскай рады па пытаннях еднасці хрысціянаў і старшыня Рады біскупаў Польшчы па пытаннях экуменізму падкрэсліў, што падпісанне дэкларацыі ёсць прэцэдэнтам для ўсёй Еўропы: «Такой дэкларацыі ў Еўропе няма. Такога тыпу дэкларацыі ёсць у асобных краінах толькі ў межах лакальных Цэркваў, у Нямеччыне, прыкладам, у Фрайбурзскай архіепархіі. Тым не менш, так званая «Рабочая група хрысціянаў Нямеччыны» так і не выпрацавала такой сумеснай дэкларацыі».

Дэкларацыю пра ўзаемапрызнанне св. Тайны Хросту падпісалі таксама першаерархі Пратэстанцкай Царквы і Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Урачыстасць падпісання адбылася ў пратэстанцкай царкве св. Тройцы ў Варшаве.

# Унія – штучны твор?!

*«Унія — найцяжэйшы момант у праваслаўна-каталіцкім дыялозе, паколькі яна з'яўляецца штучным творам, які пакліканы да існавання ў імя празелітызму»,— гэтыя словы Патрыярха Канстанцінопальскага Варфаламея I, якія ён неабачліва выказаў 25 студзеня гэтага году пасля прэс-канферэнцыі аднаму з журналістаў у будынку польскага Сейму падчас свайго візіту ў **Польшчу**, выклікалі бурную рэакцыю ў грэка-каталіцкіх колах на Украіне **і ў Польшчы**.*

Асобным польскім журналістам здалося, што Патрыярх ужыў у дачыненні грэка-католікаў выраз, які па-грэцку азначае «фальшывыя Цэрквы». Аднак жа прэс-бюро Патрыярхату ў Фанары (Стамбул) абвергла гэтую інфармацыю. Варфаламей I заявіў, што праблема Уніі стала прычынаю зацягвання экуменічнага дыялогу паміж Рыма-Каталіцкай і Праваслаўнай Царквой, бо «Расейская Праваслаўная Царква скардзіцца на празелітычную дзейнасць уніятаў у Заходняй Украіне і Славакіі». У той жа час Канстанцінопальскі Патрыярх адзначыў, што «экуменічны дыялог развіваецца дзякуючы асабістым кантактам паміж прадстаўнікамі розных Цэркваў», і пацвердзіў існаванне добрых асабістых кантактаў між ім і Папам Рымскім Янам Паўлам II. Таксама ён выказаў надзею ў другі раз пабываць у Ватыкане і сустрэцца з Папам, калі будзе для гэтага нагода.

Уладыка Любамір Гузар, біскуп-памочнік Першаерарха УГКЦ, так пракаментаваў гэтыя выказванні ўплывовага праваслаўнага ерарха: «Я не рабіў бы вялікай аферы з заявы Варфаламея I, але не хацеў бы таксама і прамаўчаць. Варфаламей I — паважная фігура. Як кажуць: будзь добры або будзь асцярожны. Ён павінен быць больш асцярожным, калі не можа быць добрым,— ён не павінен гаварыць рэчаў, якія не адпавядаюць праўдзе і нас абражаюць».

«Словы Патрыярха мяне ўразілі,— заявіў біскуп Юльян Гбур, сакратар Сіноду УГКЦ. —...Фальшывы твор не змог бы вытрымаць 400 гадоў выпрабаванняў і няшчасцяў». Адносна выказвання пра напружаныя стасункі паміж грэка-католікамі і праваслаўнымі Уладыка Гбур заўважыў, што Патрыярх памыліўся: «Цалкам няправільна гаварыць, што адносіны між Цэрквамі напружаныя. Няхай прыедуць і пераканаюцца. Стасункі былі складанымі некалькі гадоў таму ў дачыненні царкоўнай маёмасці, але зараз у Львоўскай архіепархіі не існуе больш канфліктных пунктаў». Таксама Уладыка выказаў шкадаванне, што Грэка-Каталіцкую Царкву дагэтуль не запрасілі на пасяджэнне міжнароднай камісіі ў справе каталіцка-праваслаўнага дыялогу, якая збярэцца ў Балтыморы ў чэрвені-ліпені гэтага году менавіта для абмеркавання праблемаў Уніі.

У інтэрв'ю каталіцкаму агенцтву *KAI*, якое звярнулася да Уладыкі Валадыміра Юшчака, біскупа Уроцлаўска-Гданьскага УГКЦ, з просьбай пракаментаваць выказванні Патрыярха Варфаламея I, ён адзначыў: «Экуменізм не павінен прыносіць Грэка-Каталіцкую Царкву ў ахвяру царкоўнай еднасці». Тым, хто лічыць, што грэка-католікі з'яўляюцца перашкодай, Уладыка прапанаваў паразважаць над наступным: «Калі толькі нашая Царква ёсць перашкодаю на шляху да еднасці, дык чаму гэтай еднасці не было дасягнута, калі мы былі ў падполлі?» У той жа час, калі гавораць, што Унія была прычынаю многіх няшчасцяў, Уладыка Валадымір Юшчак заўважыў, што прычына ў рэлігійных поглядах. Калі цяжка да канца высвятліць усе прычыны канфлікту,— сцвярджае біскуп,— відавочна, у гэтым вінаватыя абодва бакі.

# Храм у Рыме – дар Ватыкану Праваслаўнай Царкве

Ватыкан вырашыў перадаць Расейскай Праваслаўнай Царкве адзін з храмаў у цэнтры Рыму як знак сімвалічнага братэрсва між католікамі і праваслаўнымі. Гаворка йдзе пра храм св. Васіля, у якім у хуткім часе будуць завершаныя рэстаўрацыйныя работы. Перадача храму разглядаецца як жэст добрае волі Папы Яна Паўла II, скіраваны на пераадоленне разыходжанняў паміж праваслаўнымі і католікамі.

Храм св. Васіля размяшчаецца ў гістарычным цэнтры Рыму, недалёка ад плошчы Барберыні.

# Царква і Джардана Бруна: праз 400 гадоў

*18 лютага 2000 году Дзяржсакратар Ватыкану Анджэла Садана накіраваў пасланне ўдзельнікам кангрэсу ў Неапалі, які быў прысвечаны жыццю і дзейнасці Джардана Бруна.*

У пасланні выказана глыбокае шкадаванне з прычыны пакарання смерцю вядомага італійскага філосафа, якая адбылася роўна чатырыста гадоў таму. Кардынал Садана піша, што гэта была «жорсткая расправа,.. варты жалю эпізод у гісторыі хрысціянства ў Новыя часы». Далей ён разважае пра шматвяковую нецярпімасць хрысціянаў, якая часам мела месца і якая «кідае цень на абвяшчэнне Добрай Навіны».

Дзяржсакратар Ватыкану заклікаў удзельнікаў кангрэсу перамагчы «спакусу паспрачацца», якая адцягвае ўвагу ад вывучэння сутнасці трагедыі «з сэрцам, адкрытым для гістарычнае праўды». Безумоўна, немагчыма зразумець усяго, што адбылося ў 1600 годзе, калі не ўлічыць усю сітуацыю і менталітэт людзей пачатку сямнаццатага стагоддзя. Суд інквізіцыі, падкрэсліў кардынал Анджэла Садана, асудзіў Джардана Бруна «у поўнай адпаведнасці з законамі, якія дзейнічалі ў тыя часы». Мы павінны зразумець, што «суддзі філосафа кіраваліся жаданнем служыць ісціне і клапаціліся пра агульнае дабро, і яны зрабілі ўсё ад іх залежнае, каб выратаваць яму жыццё». Як бачна з гэтых словаў, гэты зварот зусім не ёсць спробай цалкам рэабілітаваць ідзі Д.Бруна, бо яны «несумяшчальныя з хрысціянскай навукай».

Джардана Бруна нарадзіўся ў 1548 годзе ў невялікім гарадку Нола каля Неапаля. Царква тады перажывала перыяд цяжкага крызісу: Лютар, Кальвін і Генрых VIII адлучылі ад яе апекі цэлыя народы. На выклік Рэфармацыі Каталіцкая Царква адказала Трыдэнцкім Саборам, які заклікаў да духоўнай абновы і рэформаў, а таксама выпрацаваў дактрыну для захавання царкоўнай еднасці. У сямнаццаць гадоў Бруна ўступіў у ордэн дамініканцаў. Аднак ягоныя разважанні аб прыродзе Тройцы і Ўцелаўленні прывялі да ерасі, і яму прыйшлося скітацца па ўсёй Еўропе. Ягоная філасофія не ўпісвалася ў рамкі аніводнае школы, што тады існавалі. Да таго ж ён адмаўляў усялякі аўтарытэт, у тым ліку царкоўны. Рэлігію ён называў зборам бессэнсоўных забабонаў, якія дапамагаюць кантраляваць натоўпы невукаў. Акрамя таго, Джардана Бруна верыў у рэінкарнацыю і атаясамліваў прыроду з Богам, г. зн., быў паслядоўным пантэістам. Вось чаму яшчэ да адлучэння ад Каталіцкае Царквы ён быў выкляты і кальвіністамі, і лютаранамі.

Заслугі Д.Бруна ў развіцці астраноміі неаспрэчныя, аднак гісторыкі навукі не лічаць ягоныя працы цалкам навуковымі, бо ў іх няма дакладных разлікаў, матэматычных формулаў. Ён быў неардынарны мысляр, але супярэчлівы. У пэўным сэнсе ён быў прадвеснікам сучаснай філасофіі, заснаванай на рацыянальнай этыцы, але ў той жа час ён верыў у сілу магіі, не прызнаваў навуковага эксперыменту, да якога заклікаў Галілей.

Адусюль выгнаны, Бруна, урэшце, пажадаў зноў уз'яднацца з Каталіцкай Царквой. У хуткім часе па яго вяртанні ў Італію ён быў выдадзены інквізітарам і адвезены ў Рым, дзе праз восем гадоў яго вызналі нераскаяным ерэтыкам. 17 лютага 1600 году, ва ўзросце 52 гадоў, ён быў спалены ў Рыме на пляцы Кампа-дэі-Фьёры.

# Акцыя адмовы ад алкаголю

Больш за 150 жыхароў новага мікрараёну Івана-Франкоўска, якія мелі цягу да алкаголю, узялі ўдзел у акцыі адмаўлення ад «зялёнага змея», якая адбылася напярэдадні Раства Хрыстова ў храме св. Уладзіміра і Вольгі Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы. Шмат хто з удзельнікаў акцыі даў абяцанне не ўжываць спіртнога да канца свайго жыцця. Гэтае нязвыклае мерапрыемства было прысвечана 2000-годдзю Раства Хрыстовага, а правялі яго актывісты дабрачыннага фонду «Салідарнасць» сумесна з духавенствам УГКЦ.

Дарэчы, святары Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы а. Андрэй Абламейка з Менску і а. Ігар Кандрацьеў з Берасця разам з групай вернікаў вырашылі ў Юбілейным Годзе таксама цалкам адмовіцца ад ужывання спіртнога. Гэта ёсць свайго роду ахвяра Богу за тых, хто залежны ад алкаголю.

# Іспанскія манахі просяць прабачэння

Канферэнцыя іспанскіх манахаў прыняла дакумент-прабачэнне за ўдзел духавенства краіны ў інквізіцыі.

«Ёсць цёмныя старонкі ў нашай гісторыі»,— гаворыць прэзідэнт канферэнцыі Марыя Ліцыя, маючы на ўвазе тых прадстаўнікоў духавенства, якія супрацоўнічалі з іспанскай інквізіцыяй, і манахаў, што служылі воінамі падчас дэспатычнага дыктатарскага рэжыму.

Канферэнцыя іспанскіх манахаў стала водгукам на заклік Святога Айца Яна Паўла II да ўсіх католікаў у час Юбілейнага Году глыбока пераасэнсаваць гістарычнае мінулае і папрасіць прабачэння за ўчыненыя памылкі.

# Спіс католікаў – ахвяраў забойстваў

Ватыканскае агенцтва «Fides» апублікавала спіс каталіцкіх місіянераў, якія былі забітыя ў мінулым годзе. Пры гэтым адзначаецца, што гэты спіс, верагодна, няпоўны, паколькі цэлы шэраг місіянераў да гэтуль лічацца зніклымі бяз весткі. Агенцтва назвала імёны 17 святароў, 4 семінарыстаў, 2 катэхізатараў і 8 манашак, забітых за сваю веру ў 1999 годзе. 10 загінулых місіянераў — афрыканцы, 11 - азіяты (у тым ліку 6 — з Усходняга Тымору і 3 — з Індыі), 5 — калумбійцы. Калі лічыць, што ў Афрыцы пакутніцкі вянец прынялі не толькі мясцовыя католікі, але й місіянеры з іншых краінаў, агульная колькасць прапаведнікаў Евангелля, забітых на гэтым кантыненце ў 1999 годзе, склала 15 асобаў.

# Ерархі трох хрысціянскіх канфесіяў разам адчыняюць Святыя Дзверы

*Працяг. Пачатак на с.3*

З часоў II Ватыканскага сабору не было такой шматлікай экуменічнай асамблеі. Вось спіс Цэркваў, хрысціянскіх аб'яднанняў і арганізацыяў, што прынялі ўдзел ва ўрачыстасцях, якія адбыліся 18 студзеня 2000 году ў базіліцы святога Паўла за мурамі: Усяленскі Канстанцінопальскі Патрыярхат, Грэка-Праваслаўны Александрыйскі Патрыярхат, Грэка-Праваслаўны Антыяхійскі Патрыярхат, Грэка-Праваслаўны Ерусалімскі Патрыярхат, Маскоўскі Патрыярхат, Сербскі Патрыярхат, Румынскі Праваслаўны Патрыярхат, Грэцкая Праваслаўная Царква, Польская Праваслаўная Царква, Албанская Праваслаўная Царква, Фінская Праваслаўная Царква, Копцкі Праваслаўны Александрыйскі Патрыярхат, Сірыйска-Праваслаўны Антыяхійскі Патрыярхат, Армянская Апостальская Царква, Кілікійскі Католікасат Армянаў (Антэліяс, Ліван), Усходняя Асірыйская Царква, Супольнасць Англіканаў, Стара-Каталіцкая Царква Утрэхцкае Уніі, Сусветная Лютаранская Федэрацыя, Сусветная Метадысцкая Рада, Вучні Хрыста, Царква Пяцідзясятнікаў і Сусветная Рада Цэркваў.

Экуменічнае набажэнства ў базіліцы св. Паўла за мурамі пазначыла адкрыццё традыцыйнага Тыдня малітваў за хрысціянскую еднасць. А 25 студзеня ў гэтай самай базіліцы кардынал Ражэ Этчэгэрэй, прэзідэнт ватыканскага камітэту па падрыхтоўцы да Вялікага Юбілею, правёў заключнае вячэрняе набажэнства, апошнім акордам якога стала малітва за хрысціянскую еднасць.

*Інфармацыя падрыхтавана паводле паведамленняў Агенцтва рэлігійнай інфармацыі (АРІ), Каталіцкага інфармацыйнага агенцтва (КАІ) і іншых прэсавых крыніцаў.*



# ПАСЛАННЕ

## Святога Айца Яна Паўла II з нагоды Вялікага посту 2000 году




***«Я з вамі ва ўсе дні аж да сканчэння веку» (Мц 28, 20)***

Дарагія браты і сёстры!

1 Сёлетні Велікодны пост, які ёсць часам навяртання і прымірэння, набывае асаблівы характар падчас святкавання Вялікага Юбілею 2000 году. Гэты пост сапраўды з'яўляецца кульмінацыйным момантам у падарожжы навяртання і прымірэння, да якога Юбілей, год Гасподняе ласкі, запрашае ўсіх вернікаў для таго, каб яны маглі аднавіць сваю адданасць Хрысту і з абноўленым запалам у новым тысячагоддзі абвяшчалі Ягоную Тайну збаўлення. Пост дапамагае хрысціянам заглыбіцца ў пазнанне той «таямніцы, схаванай ад вечнасці ў Богу» *(Эф 3, 9)*: ён уводзіць іх да сустрэчы са светам жывога Бога і прымушае адмовіцца ад уласнага эгаізму дзеля пазнання збаўленчай дзеі Духа Святога.

2 Мы былі мёртвыя праз нашыя грахі *(Эф 2, 5)*: так св. Павел малюе стан чалавека без Хрыста. Вось чаму Сын Божы пажадаў паяднацца ў чалавечай прыродзе, адкупіўшы яе з рабства грэху і смерці.

Гэта тое рабства, у якім чалавек жыве штодзень, бо карані яго знаходзяцца ў ягоным сэрцы *(Рым 7, 11)*. Часам яно праяўляецца драматычна і нязвыкла, як гэта адбывалася падчас вялікіх трагедыяў дваццатага стагоддзя, якімі ў значнай ступені пазначанае жыццё шмат якіх супольнасцяў і асобных людзей, ахвяраў жорсткай сваволі. Прымусовая дэпартацыя, сістэматычнае вынішчэнне народаў, знявага асноўных правоў чалавека: усе гэтыя трагедыі нават сёння прыніжаюць чалавецтва. У штодзённым жыцці нам даводзіцца слатыкаць розныя формы падману, нянавісці, прыніжэння іншых асобаў ды ілжы, ахвяраю і першапрычынаю якіх з'яўляецца чалавек. Чалавецтва пазначанае грахом. Трагічны стан, у якім яно знаходзіцца, нагадвае нам пра трывожны крык апостала да народаў: «Няма праведнага аніводнага» *(Рым 3, 10; Пс 14, 3)*.

3 Перад цемраю граху і бяссіллем чалавека вызваліцца самому ва ўсёй сваёй красе выяўляецца збаўчая дзейнасць Хрыста, «Якога Бог прынёс у ахвяру ўмілажальвання ў Крыві Ягонай праз веру, для выяўлення справядлівасці сваёй» *(Рым 3, 25)*, Хрыстос — гэта «Ягнё Божае, Той, хто бярэ на сябе грахі свету» *(Ян 1, 29)*. Ён прыйшоў як чалавек «аж да смерці, і смерці крыжовай» *(Флп 2, 8)*, каб выкупіць чалавецтва з рабства зла і аднавіць яго да першаснай годнасці дзяцей Божых. Гэта ёсць так званая Пасхальная Таямніца, праз якую мы нараджаемся ізноў. Як гаворыцца ў Велікоднай службе: «Смерць з жыццём змагалася, бітва дзіўна абарвалася». [...] Ва Уваскрослым Госпадзе ўлада смерці знішчана, а чалавецтва здольнае праз веру аб'яднацца з Богам. Тым, што веруюць, даецца менавіта Божае жыццё, праз дзеянне Духа Святога, «першы дар тым, хто верыць» *(IV Еўхарыстычная малітва)*. Такім чынам, адкупленне, завершанае на крыжы, аднаўляе свет і вядзе да прымірэння Бога з чалавекам, а таксама людзей між сабою.

4 Юбілей — гэта час, багаты на ласку, калі нас запрашаюць адкрыцца па-асабліваму, міласцю Айца, Які праз Сына прынізіў сябе да чалавека, і да прымірэння — цудоўнага дару Хрыста. Таму гэты год мае стацца не толькі для хрысціянаў, але і для ўсіх людзей добрае волі неацэнным момантам для перажывання адноўленае сілы Божай уседаравальнай і прымiральнай любові. Бог дорыць сваю міласэрнасць усім, хто Яго прагне, нават тым, што знаходзяцца яшчэ далёка і маюць сумніў. Сучасны чалавек, стомлены ад пасрэднасці і фальшывых спадзяванняў, такім чынам атрымлівае магчымасць стаць на шлях, які вядзе да поўні жыцця. У гэтай сувязі Велікодны пост Святога 2000-га Году — *par excellence* «час спрыяльны.., дзень збаўлення» *(2 Кар 6, 2)*, асабліва багаты на ласку праз магчымасць «прымірэння з Богам» *(2 Кар 5, 20)*.

На працягу Святога Году Царква прапануе розныя магчымасці для асабістага і супольнага прымірэння. У кожнай епархіі адведзены спецыяльныя месцы, куды вернікі могуць прыйсці, каб адчуць асаблівую прысутнасць Бога, пазнаючы праз Ягонае святло сваю ўласную грахоўнасць, і праз Тайну Прымірэння абраць новую дарогу ў жыцці. Вялікае значэнне маюць пілігрымкі на Святую Зямлю і ў Рым, якія з'яўляюцца асаблівымі месцамі для сустрэчы з Богам, дзякуючы іх унікальнай ролі ў гісторыі збаўлення. Як мы можам не наведаць, прынамсі ў духоўным уяўленні, Зямлю, якая дзве тысячы гадоў таму бачыла прыход Госпада? Тут «Слова сталася Целам» *(Ян 1, 14)*, «Ісус рос у мудрасці і гадах, ды ў ласцы ў Бога і ў людзей» *(Лк 2, 52)*; тут «абходзіў Ісус усе гарады і вёскі, абвяшчаючы Евангелле Валадарства Божага і аздараўляючы ўсякую хваробу і ўсякую немач» *(Мц 9, 35)*; тут Ён завершыў місію, што была даручана Яму Айцом *(пар. Ян 19, 30)* і выліў Святога Духа на Царкву, якая зараджалася *(Ян 20,22)*.

Спадзяюся, што менавіта падчас Велікоднага Посту 2000-га Году таксама змагу ўзяць удзел у пілігрымцы да Святой Зямлі, да мясцінаў, дзе пачыналася нашая вера, каб адсвяткаваць двухтысячагадовы Юбілей Божага Уцелаўлення. Запрашаю ўсіх хрысціянаў разам са мною далучыцца ў сваёй малітве падчас усёй пілігрымкі, калі і я буду прасіць аб прабачэнні і прымірэнні для сыноў і дочак Царквы ды ўсіх людзей.

5 Шлях навяртання вядзе да прымірэння з Богам і поўні новага жыцця ў Царкве, веры, надзеі ды любові. Гэтыя тры пашаноты, вядомыя як «багаслоўскія», беспасрэдна стасуюцца Бога ў Ягонай таямніцы, на працягу трох гадоў падрыхтоўкі да Вялікага Юбілею заўжды былі прадметам вывучэння. У адзначэнні Святога Году сёння лунае заклік да кожнага хрысціяніна жыць згодна з гэтымі пашанотамі і сведчыць пра іх як мага паўней і з большым усведамленнем.

Ласка Юбілею заклікае нас аднавіць нашую асабістую веру. Да гэтага належыць і вытрыманне посту да абвяшчэння Пасхальнай Таямніцы, праз якую вернікі вызнаюць, што праз Хрыста, Укрыжаванага і Уваскрослага, яны атрымалі збаўленне. Дзень за днём яны аддаюць Яму свае жыцці; прымаюць усё, што Госпад для іх жадае, з перакананнем у тым, што Бог іх любіць. Вера гэта «Так», сказанае Богу людзьмі; гэта іхнае «Амін».

Аднолькава як для габрэяў, так і хрысціянаў ды мусульманаў Абрагам з'яўляецца ўзорам веруючага чалавека, веручы ў абяцанае, ён ідзе за голасам Бога, які кліча Яго ў невядомы шлях. Вера дапамагае нам распазнаваць знакі Божае любові ў стварэнні, у людзях, у гістарычных падзеях і, па-над, у дзеях і пасланніцтве Хрыста, Ён натхняе людзей паглядзець па-за сабою, па-за з'явамі на тую трансцэндэнтнасць, дзе адкрытая таямніца Божае любові да кожнага стварэння.

Праз ласку Юбілею Госпад нібы запрашае нас аднавіць і нашую надзею. Сапраўды, сам час ёсць выкуплены ў Хрысце і адкрываецца для бясконцае радасці і поўнага судакранання з Богам. Для хрысціянаў час пазначаны чаканнем вечнае вясельнае ўрачыстасці, якая штодзённа адбываецца за Еўхарыстыйным сталом. У чаканні вясельнага банкету «і Дух, і Нявеста клічуць: «Прыйдзі!» *(Адкр 22, 17)*, паджыўляючы надзею, якая вызваляе час ад простага паўтору і надае яму ягонае сапраўднае значэнне. Дзякуючы такой пашаноце, як надзея, хрысціяне сведчаць пра тое, што не зважаючы на ўсё зло і розныя абмежаванні, гісторыя нясе ў сабе зерне дабра, якое Госпад выкліча да росту ва ўсёй ягонай поўні. Таму яны ўглядаюцца ў новае тысячагоддзе без страху і сустракаюць выклікі ды спадзяванні будучыні з упэўненасцю, якая народжана вераю ў абяцанне Гасподняе.

Праз юбілей, урэшце, Госпад просіць нас разбудзіць нашую дабрачыннасць. Божае Валадарства, якое Хрыстос абвесціць ва ўсёй ягонай красе ў канцы вякоў, ужо ёсць там, дзе людзі жывуць згодна з Боскай воляй. Царква паклікана сведчыць пра судакрананне, супакой і дабрачыннасць, якія ёсць вызнанымі адзнакамі Божага Валадарства. У гэтым пасланніцтве хрысціянская супольнасць усведамляе, што вера без учынкаў — мёртвая *(Як 2, 17)*. Таму сваёй дабрачыннасцю хрысціяне робяць Божую любоў да чалавека, аб'яўленую ў Хрысце, бачнаю і абвяшчаюць Хрыстовую прысутнасць у свеце «аж да сканчэння веку». Для хрысціянаў дабрачыннасць — гэта не проста жэст ці ідэал, а так бы мовіць, працяг прысутнасці Хрыста, які аддае Сам Сябе.

Падчас Велікоднага посту усе — багатыя і бедныя — запрашаюцца зрабіць Хрыстову любоў прысутнаю праз шчырасардэчную дабрачынную дзейнасць. У часе гэтага Юбілейнага Году наша дабрачыннасць паклікана па-асабліваму праявіць Хрыстову любоў да нашых братоў і сёстраў, якім не стае сродкаў для існавання, якія церпяць ад голаду, насілля і несправядлівасці. Гэта спосаб зрабіць рэальнымі ідэалы свабоды і братэрства, якія бачым у Святым Пісанні, ідэалы, пра якія Святы Год зноў

# 50 гадоў Беларускай праграме Ватыканскага радыё




*«Мы дзякуем і прыносім хвалу Госпаду за тое дабро, якое бясспрэчна прынеслі і працягваюць прыносіць перадачы Беларускай праграмы шматлікім слухачам... Няхай Госпад падтрымае і блаславіць усіх вас, каб вы маглі паспяхова працягваць сваю працу! Няхай вашыя супрацоўнікі ведаюць, што іхнія намаганні ацэненыя і выклікаюць павагу!»— да гэтых словаў Апостальскага нунцыя ў Беларусі архібіскупа Дамініка Грушоўскага, адрасаваных на імя кіраўніка Беларускай праграмы Ватыканскага радыё а. Клаўдзія Рабінэ (SJ), далучаецца і рэдакцыя газеты «Царква», а таксама і ўсе грэка-католікі Беларусі.*

*На здымку:* кіраўнік Беларускай праграмы Ватыканскага радыё а. Клаўдзі Рабінэ (у цэнтры) разам са сваімі супрацоўнікамі і гасцямі.

---

нагадвае нам. Насамрэч даўні габрэйскі юбілей, які пакліканы для вызвалення нявольнікаў, адмены даўгоў, дапамогі бедным. Сёння новыя формы няволі ды больш трагічныя формы збяднення робяцца прычынаю пакутаў велічэзнае колькасці людзей, асабліва ў так званых краінах трэцяга свету. Гэта крык людзей, якія церпяць і знаходзяцца ў адчаі, крык, які павінен быць пачуты, на які павінны адгукнуцца ўсе, хто крочыць шляхам Юбілею. Як можам прасіць Юбілейнае ласкі, калі застаемся абыякавымі да патрэбаў бедных людзей, калі не працуем над тым, каб забяспечыць усіх людзей усім неабходным для годнага існавання?

Няхай тысячагоддзе, якое толькі пачынаецца, будзе часам, калі, нарэшце, крык незлічонае колькасці людзей — нашых братоў і сёстраў, якія пазбаўленыя самага элементарнага ў жыцці,— будзе пачуты і знойдзе шчыры і сардэчны водгук. Спадзяюся, што хрысціяне на ўсіх узроўнях будуць спрыяць практычным ініцыятывам, каб забяспечыць справядлівы падзел матэрыяльных дабротаў і спрыяць паўнавартаснаму развіццю кожнага чалавека.

6 «Я з вамі ва ўсе дні аж да сканчэння веку». Гэтыя словы Ісуса запэўніваюць нас у тым, што абвяшчаючы Евангелле дабра і жывучы згодна з ім, мы не самотныя. На працягу гэтага Велікоднага посту 2000 году Ён зноў запрашае нас павярнуцца да Айца, Які чакае нас з адкрытымі абдымкамі, каб перамяніць нас у жыццядайныя і дзейныя знакі Ягонае ўседаравальнае Любові.

Марыі, Маці ўсіх, што церпяць, і Маці Боскай Міласэрнасці, мы даручаем нашыя намеры і рашэнні. Няхай яна будзе яскравай зоркай у нашым падарожжы ў новае тысячагоддзе.

З гэтымі пачуццямі я прашу для ўсіх бласлаўлення Бога, Адзінага ў Найсвятой Тройцы, пачатку і канца ўсяго, Якому спяваем «аж да сканчэння веку» гімн бласлаўлення і хвалы ў Хрысце: «Праз Яго, з Ім і ў Ім, у еднасці Духа Святога, уся пашана і слава Твая, Усемагутны Божа, на вякі вякоў. Амін».

*Кастэльгандольфа, 21 верасня 1999 году*
***Ян Павел II***

*АПОСТАЛЬСКІ ВІЗІТАТАР AD NUTUM SANCTAE SEDIS ДЛЯ ГРЭКА-КАТОЛІКАЎ БЕЛАРУСІ*

# Дэкларацыя

## аб Юбілейных пілігрымках у 2000 Годзе

У рамках святкавання Вялікага Юбілею 2000 Году месцамі юбілейных пілігрымак вернікаў БГКЦ прызначаны наступныя святыні:

— парафіяльная царква Маці Божай Бялыніцкай у Магілёве;

— царква св. Параскевы Полацкай пры полацкім манастыры студытаў;

— памятны Крыж у Альбярціне (Слонім);

— месца былой царквы св. Мікалая ў Берасці.

Рашэннем Яго Эмінэнцыі Кардынала Ахілеса Сільвестрыні — Прэфекта Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў (ад 2 сакавіка 2000 году) усе вернікі, якія пабожна пілігрымуюць да гэтых святых месцаў (у групах альбо індывідуальна) могуць атрымаць юбілейны водпуст, пры захаванні звычайных умоваў.

Акрамя гэтага, месцам юбілейнага водпусту з'яўляецца катэдра св. Барбары ў Віцебску.

Няхай юбілейныя пілігрымкі дапамагаюць духоваму ўзмацненню шматлікіх вернікаў нашае Царквы.

*Ватыкан-Менск, 4 сакавіка 2000 году*
*архімандрыт Сяргей Гаек, Візітатар*

*АПОСТАЛЬСКІ ВІЗІТАТАР AD NUTUN SANCTAE SEDIS ДЛЯ ГРЭКА-КАТОЛІКАЎ БЕЛАРУСІ*

# Дэкларацыя

## аб зацвярджэнні літургічных тэкстаў на беларускай мове

Рашэннем Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў ад 5 студзеня 2000 году (пр. №119/98) атрымала дэфінітыўнае зацвярджэнне беларускамоўная версія літургічных тэкстаў Літургікона, Часаслова і Трэбніка, гэта значыць: тэкстаў святых Літургій, службаў Часаслова, а таксама святых Тайнаў і абрадаў пахавання памёрлых.

Адначасова зацвярджэнне Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў на тэрмін пяці гадоў атрымалі беларускамоўныя тэксты Трыядыёну Поснага і Пасхальнага (*Pentekostarion*), Актоіха, Мінеі святочнай, а таксама астатнія часткі Трэбніка.

Дэкрэты Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў сцвярджаюць, што толькі гэтыя пераклады могуць быць ва ўжыванні ў БГКЦ. Святары і вернікі Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі абавязаны карыстацца гэтай зацверджанай Апостальскай Сталіцай версіяй богаслужбовых тэкстаў.

Богу хай будзе падзяка за юбілейны дар зацвярджэння літургічных тэкстаў у роднай мове.

*Рым, 6 студзеня*
*свята Богаз'яўлення 2000 году*
*архімандрыт Сяргей Гаек, Візітатар*

# БЕАТЫФІКАЦЫЯ НОВАМУЧАНІЦАЎ З НАВАГРАДКУ



*У нядзелю 5 сакавіка 2000 году Святы Айцец беатыфікаваў у Рыме 11 сёстраў назарэтанак з Наваградку, якія прынялі смерць ад рук гітлераўцаў 1 жніўня 1943 году.*

*З Беларусі ва ўрачыстасцях праслаўлення сясцёр назарэтанак бралі ўдзел рыма-каталіцкі біскуп Гарадзенскі Аляксандр Кашкевіч, вікарны біскуп Гарадзенскай дыяцэзіі Антон Дзямянка, біскуп Віцебскі Уладзіслаў Блін, а таксама Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек. На ўрачыстасць беатыфікацыі ў Рым таксама прыбылі пілігрымкай больш за сотню вернікаў Гарадзенскае дыяцэзіі.*

*Вось імёны сёстраў-мучаніцаў з Наваградку: с. Марыя Стэла Мардасевіч, зверхніца законнага дому Хрыста Уладара сясцёр назарэтанак, с. М. Імельда Жак, с. М. Раймонда Кукаловіч, с. М. Даніэля Юзвік, с. М. Канута Хробат, с. М. Сергія Рапей, с. М. Геідона Церпка, с. М. Феліцыта Баравік, с. М. Геліядора Матушэўская, с. М. Каніцыя Мацкевіч, с. М. Барамея Нармантовіч.*

Сёстры Найсвяцейшай Сям'і з Назарэту прыбылі да Наваградку ў 1929 годзе па запрашэнні біскупа Зыгмунта Лазінскага, Слугі Божага, каб апекавацца касцёлам Перамянення Гасподняга, называнага таксама Белай Фарай,і прысвяціць сябе выхаванню і адукацыі дзяцей і моладзі. Сёстры распачалі працу з моладдзю адразу ж па сваім прыездзе, спачатку ў арэндаваным памяшканні, а затым у 1933 годзе — ва ўласнай школе, пабудаванай дзякуючы намаганням Зграмаджэння і дапамозе жыхароў. Першай справай сёстраў, якая абумовіла таксама іх адукацыйную дзейнасць, была праца, звязаная з касцёлам Перамянення Гасподняга. Дзякуючы выдатным рэктарам Фары і працы сёстраў сталася яна вельмі важным адукацыйным асяродкам, які рэлігійна ўплываў на жыхароў горада і наваколля. Сёстры, з якіх складалася супольнасць дому Хрыста Уладара падчас вайны і акупацыі (1939-1945), прыбывалі да яе ў розныя часы; і была яна падобная да грамадства ўсходняй часткі тагачаснай Рэчы Паспалітай — шматкаляровай мазаікай тэмпераментаў і асобаў, якія служылі адзінай справе — «пашырэнню Валадарства Божай Любові». Закладальніца Зграмаджэння бласл. Марыя ад Госпада Ісуса Добрага Пастыра (Францішка Седліская, нар. 12.11.1842, лам. 21.11.1902) пакінула яго сваім сёстрам у спадчыну як харызматычнае пасланніцтва. І таму кожная сястра наваградскае пляцоўкі, нягледзячы на характар працы, якой займалася, ведала, што служыць праз яе Уладару Нябёсаў.

Выбух II Сусветнай вайны 1 верасня 1939 году і наступная акупацыя парушылі былы жыццёвы лад наваградскіх жыхароў. Новыя ўлады імкнуліся справакаваць антаганізм паміж беларусамі і палякамі. Пры Саветах сёстры былі выгнаныя са свайго дому і жылі паасобку, і тым самым слаўна пазналі цярпенні іншых. Падчас нямецкай акупацыі сёстры вярнуліся да кляштару, бо прагнулі стаць для засмучонага насельніцтва знакам надзеі. У гэты складаны час абавязак зверхніцы законнага дому Хрыста Уладара сясцёр назарэтанак у Наваградку выконвала с. Марыя Стэла ад Найсвяцейшага Сакраманту (Адэля Мардасевіч). Яна нарадзілася 14 снежня 1888 году ў вёсцы Цяснаўка Нясвіжскага павету. Да Зграмаджэння была прынятая 14 верасня 1910 году. Настаўніца па адукацыі, яна працавала таксама выхавацелькай у інтэрнаце, эканомкай, а таксама закрыстыянкай. У Наваградак прыехала ў 1936 годзе. Вызначалася сваёй дабрынёй, велікадушнасцю і сапраўднай любоўю да бліжняга. Ва ўспамінах захаваўся яе вобраз як асобы сузіральнай, глыбока веруючай і вельмі ўражлівай на чужое гора.

Сапраўдным святлом у цемры вайны сталася наваградская Фара, і нядзіўна, што ў ёй збіралася мноства людзей на малітву. На касцёл, дзе ішло спакойнае рэлігійнае жыццё, які называлі «калыскай надзеі і бастыёнам каталіцызму», не маглі спакойна глядзець акупанты. Тэрор супраць мірнага насельніцтва ў горадзе і наваколлі ўзмацніўся з той хвіліны, калі з недалёкіх Баранавічаў прыбылі спецыяльныя групы гестапа. Першае масавае забойства адбылося ў ліпені 1942 году, падчас якога былі расстраляныя 60 асобаў. Увесну 1943 году сёстры яшчэ больш пашырылі сваю харытатыўную і адукацыйную дзейнасць. Прыгнечаныя наваградцы шукалі суцяшэння і супакою ў касцёле, дзе штораніцы адпраўляў св. Імшу адзіны ацалелы на ўсё наваколле святар, а ўвечары, пры выстаўленні Найсвяцейшага Сакраманту, вернікі, разам з ксяндзом і сёстрамі, маліліся на ружанцы.

У дзень 18 ліпеня 1943 году пракацілася новая хваля арыштаў сярод насельніцтва. У вязніцы знаходзілася 120 чалавек, прыгавораных да расстрэлу. У Наваградку не было ніводнае хаты, дзе б не аплаквалі блізкіх. Людзі спяшаліся да сёстраў і дзяліліся з імі сваім горам. І вось тады сёстры прымаюць сумеснае рашэнне — ахвяраваць сваё жыццё за арыштаваных. У прысутнасці капелана і рэктара Фары кс. Аляксандра Зянкевіча вечарам таго самага дня зверхніца дому сясцёр назарэтанак сястра М. Стэла Мардасевіч звярнулася з малітвай ад імя ўсіх: «Мой Божа, калі патрэбна гэтае прынясенне жыцця ў ахвяру, няхай лепей нас расстраляюць, а не тых, хто мае сем'і, — молімся аб гэтым». Як у адказ на малітву сёстраў у намерах фашыстаў адбылася змена. Вязняў вывезлі на прымусовыя работы ў Нямеччыну, некалькі асобаў было нават вызвалена. Усе арыштаваныя шчасліва перажылі вайну.

Калі паўстала пагроза жыццю адзінага святара, узгаданага раней кс. Зянкевіча, сёстры аднавілі сваю гатоўнасць ахвяры: «Божа, мой Божа, ксёндз капелан больш патрэбны за нас на гэтым свеце, дык молімся зараз, каб Бог забраў лепей нас, а не ксяндза, калі ёсць патрэба ў новай ахвяры».

31 ліпеня 1943 году сястра М. Стэла атрымала вусны загад гестапаўца, каб яна разам з усімі сёстрамі а гадзіне 19.30 з'явілася ў Гебеткамісарыят. Адзінаццаць сёстраў накіраваліся на назначаны адрас. Прысуд ім быў ужо вынесены. Менавіта гэтая група гестапаўцаў займалася знішчэннем духоўных асобаў, і таму не было ніякага сумніву ў далейшым лёсе. Сёстры павінны былі быць расстраляныя ў той самы дзень. Іх павезлі па-за Наваградак, але з-за вялікага руху на дарозе і вялікай колькасці людзей гестапаўцы вярнуліся. На наступны дзень, у нядзелю ранкам, 1 жніўня 1943 году, сёстраў назарэтанак вывезлі і расстралялі ў невялікім бярозава-сасновым ляску, за 5 км ад Наваградка. Экзэкуцыю здзейсніла лётная брыгада афіцэраў гестапа з Баранавічаў. «Ах, як яны ішлі, трэба было бачыць, як яны ішлі»,— захаванне сёстраў перад абліччам смерці не змог забыць нават выканаўца.

Адзіная ацалелая з усёй манаскай супольнасці сёстраў назарэтанак у Наваградку сястра М. Малгажата Банась у хуткім часе па расстрэле знайшла месца, дзе іх закатавалі гестапаўцы, і аж да сваёй смерці (26.04.1966) была апякункай іх магілы.

З верасня 1991 году парэшткі 11 благаслаўлёных сясцёр назарэтанак спачываюць у капліцы старажытнага храму Перамянення Гасподняга. Наваградцы не забыліся пра ахвяру сясцёр назарэтанак — яны памятаюць і звяртаюцца да іх у сваіх малітвах, а каля прыгожага помніка ля сцяны старажытнай Фары заўсёды ляжаць кветкі.

*Будзем жа памятаць постаці тых, хто крывёю змацаваў вернасць Хрысту і засведчыў аб Яго Любові, якую «ніхто не мае вышэй за тую, калі хто жыццё сваё аддае за сяброў сваіх» (Ян 15,13).*

Урывак з кнігі Альберта Аблондзі «Ніякіх павучанняў»

# "Мне проста цяжка дапусціць, што я веру ў Яго"

*«Дарагі біскуп. Піша вам 18-цігадовая студэнтка вучылішча Святога Духу. Чаго б я хацела ад маёй Царквы? Дык я ж наогул туды ані разу ў жыцці не завітала! Нават не ведаю, чаму так атрымалася. Вучуся ў духоўнай навучальнай установе, спасярод манашак, але калі сюды прыйшла, калі б загаварылі са мною пра Бога — я толькі б пасмяялася ў адказ. А вось цяпер гэтая тэма мяне цікавіць. Ці веру я ў Бога? Не ведаю: у што я веру і ў што — не веру... Нічога ў гэтым больш не разумею... Калі мела 9 гадоў, я страціла бацьку, які быў хворы на пухліну. Потым у мяне пайшло такое жыццё, што лепш пра гэта і не казаць. Адзінае добрае ва ўсім тым было тое, што, нягледзячы на праблемы, горш за якія й не бывае, я захавалася прыстойнаю дзяўчынкаю, якая карысталася павагаю тых нешматлікіх сяброў, што мела. У вучылішчы я стала больш верыць у Бога. У мяне тут ёсць асобны пакой з мноствам абразкоў Божай Маці. Калі-нікалі малюся да Бога, дзякую Яму, але потым... як прыпомню бацьку, усялякая вера знікае. Магчыма, мне проста цяжка дапусціць, што я веру ў Яго, я страшуся таго, што з мяне будуць смяяцца, але, наогул, я нічога ў гэтым не разумею.*

*Я неяк папрасіла сястру-манашку падвесці мяне да Першага Прычасця, але зараз перадумала. Сорамна ў 18 гадоў прыступацца да яго. Можа, я і зрабіла б гэта для маёй маці, якая была б задаволенаю, тым больш што тады я змагла б вянчацца ў Царкве. (Я заручаная ўжо 4 гады і, на жаль, далёкая пакуль да вяселля). І яшчэ — у мяне не хапае духу пайсці да Прычасця, бо я ведаю, што гэта сталася б проста здзекам з Бога (калі Ён існуе), ды й з мяне самой. Напачатку я павінна сама пераканацца, што веру ў Яго, а потым ужо паглядзім.*

*Прашу вас, Мансіньёр Альберта Аблондзі, дапамажыце мне знайсці шлях. Я хачу зразумець, што ж я на самой справе адчуваю ў адносінах да Бога: веру ў Яго ці не.*

*Даруйце мне гэткі песімізм, але я маю сумніў, што атрымаю адказ. Але — не так важна. Я выказалася, і, пакуль ёсць сумніў: ці ёсць Бог, ці не,— ёсць і нейкая надзея, ці не праўда?*

*Дзякую вам бясконца.*

*Эстэр*

Дарагая Эстэр!

Разумею ўсе твае мучэнні. У тваім лісце — пастаяннае чаргаванне веры і нявер'я, амаль цвёрдай упэўненасці і глыбокіх сумніваў, прыняцця і абвяржэння. Усе гэтыя пачуцці ты выпрабоўваеш у адносінах да Бога. Калі я правільна разумею, унутры цябе ёсць два фактары, якія ўтрымліваюць цябе ад сустрэчы з Госпадам. У першую чаргу: смерць твайго бацькі, з якой ты дагэтуль не можаш змірыцца. Але, можа, табе ў гэтым дапаможа наступная думка: смерць — гэта не такая вялікая таямніца, як жыццё. Іншымі словамі, нашае з'яўленне на свет — падзея яшчэ больш таямнічая, цудоўная і больш глыбокая для разумення. На самой справе, лёгка зразумець, што той, хто жыве, можа памерці. Цяжэй зразумець, і гэта яшчэ больш таямніча, што праз акт Сваёй любові Бог паклікаў да існавання менавіта мяне, выняўшы мяне з бясконца шматлікай колькасці магчымасцяў заставацца ў небыцці.

Можа, мы надта многа думаем пра разнастайныя «пакліканні» — быць мужчынам, жанчынаю, хрысціянінам, свецкім, святаром і гэтак далей — і занядбоўваем самае цудоўнае і падставовае пакліканне — пакліканне да «быцця», існавання.

З іншага боку, ты цяпер перажываеш суцэльны крызіс свайго ўзросту, у якім так натуральна, перш чым прыняць нейкага чалавека ў сваё жыццё (а, па-сутнасці, Бог — асоба й Чалавек), доўга вагацца, шукаць поўнае яскравасці, дамагацца максімальных гарантыяў.

Аднак, як мне здаецца, Госпад ведае тыя прычыны, што ўтрымліваюць цябе, і ўсё роўна працягвае стукацца ў твае дзверы. Я б сказаў, што твой ліст нараджае ўва мне менавіта такія вобразы: як Госпад, у розныя моманты, праз тваю сустрэчу з манашкамі, праз словы тваёй маці, праз твае думкі аб Першым Прычасці,— працягвае стукацца ў твае дзверы, у тваё жыццё. Па сутнасці, як мне здаецца, твае дзверы не замкнёныя: пакуль яны застаюцца прыадчыненыя.Ты кажаш, што я павінен быў бы дапамагчы табе адчыніць іх. Менавіта такую просьбу я чытаю ў тваёй мальбе, якою завяршаецца твой допіс: «Прашу Вас, Мансіньёр Альберта Аблондзі, дапамажыце мне знайсці шлях!»

Як жа я магу ў адным лісце вывесці цябе на такі важны шлях? Як мне апісаць табе ўсе тыя шматлікія магчымасці, якія адкрываюцца перад тваёй свабодай, тваім розумам, тваімі пачуццямі?

Я б толькі хацеў, каб ты здолела зразумець, што ў гэтым тваім ваганні прысутнічае гатоўнасць прыняць Бога і настойлівае імкненне Бога быць табою прынятым. Каб працягваць размову, накіроўваю цябе да таго адказу, які я даю ўсім маладым: усім, хто імкнецца да Бога і, адначасова, абвяргае Яго. Адказ знаходзіцца напрыканцы гэтае кнігі, у раздзелах, прысвечаных Богу і Царкве.

Мне здаецца, што мы з табою здолеем працягваць размову. Дарэчы, я гатовы працягваць яе і праз тэлефон, і пры асабістай сустрэчы.

З любоўю

**† Біскуп Альберта**



*Манастыр св. Кацярыны ля Святой Гары Сінай. Тут быў знойдзены слынны Сінайскі кодэкс, які — разам з Ватыканскім кодэксам — складае найбольш поўны рукапіс усёй Біблii (IV ст.)*

**Манс. Крыштаф НІТКЕВІЧ**

# Егіпет хрысціянскі

Егіпет — гэта не толькі піраміды і старажытныя святыні, што засталіся пасля розных дынастыяў фараонаў. Гэта таксама мясціны, дарагія для хрысціянаў: Гара Сінай, пустынныя манастыры св. Антонія, св. Паўла і св. Пахома, не кажучы ўжо пра хрысціянскую часціну старога Каіру.

**1** Найважнейшым біблійным месцам Старога Запавету, якое можна наведаць у Егіпце, з'яўляецца, безумоўна, Гара Сінай, што ляжыць на паўвыспе з той самай назвай, дзе Бог заключыў Саюз з Народам Абрагамам і даў Майсею Свой Закон. У выніку бурлівай гісторыі гэтага рэгіёну, святая гара трох монатэістычных рэлігіяў (юдэяў, хрысціянаў і мусульманаў) часта была недаступная для пілігрымаў. Сінайская паўвыспа была занятая Ізраілем падчас вайны 1967 году і была вернутая Егіпту толькі дзякуючы мірнаму паразуменню, падпісанаму ў Кэмп-Дэвідзе.

Побач з гістарычнай узвышанасцю, якая носіць сёння назву Джэбэль Муса (*Gebel Musa*), Гара Майсея, 2285 метраў вышыні, на якую пілігрымы ўздымаюцца зазвычай ноччу, каб на досвітку стаяць на вяршыні, знаходзіцца грэка-праваслаўны манастыр св. Кацярыны, што ляжыць ля яе падножжа, які немагчыма абмінуць. Манастыр гэты, збудаваны ў 527-565 гадах па загадзе імператара Юстыніяна, слынны са старажытных рукапісаў, якія захаваліся ў ім, а таксама з абразоў выключнай прыгажосці. Шкада, што толькі ў невялікай частцы ён даступны для пілігрымаў.

Іншая значная для хрысціянаў мясціна, звязаная з Новым Запаветам, гэта пячора, дзе схавалася Святая Сям'я падчас сваіх уцёкаў у Егіпет. Паводле падання, знаходзіцца яна ў межах цяперашняе царквы св. Сяргея ў старым Каіры.

**2** Пачаткі хрысціянства ў Егіпце афіцыйна звязаныя ў гэтых мясцінах з асобаю св. Марка Евангеліста, які быў біскупам Александрыі і каля 68 году прыняў у гэтым горадзе мучаніцкую смерць. Сама Александрыя, якая можа пахваліцца такімі выдатнымі асобамі, як св. Клімент Александрыйскі і Арыген, стала важным месцам развіцця багаслоўскіх навук. Вось жа гэтая егіпецкая пустэльня, у якой у пошуку святасці сяліліся шматлікія групы прадстаўнікоў розных слаёў тагачаснага грамадства, была сапраўднай калыскай манаства.

**3** Найбольш шматлікай хрысціянскай супольнасцю ў Егіпце і адначасна на Блізкім Усходзе з'яўляецца Копцкая Артадаксальная Царква (дахалкідонская). Гэтая Царква не прыняла хрысталагічнай дактрыны Халкідонскага Сабору (451 г.), выпрацаваўшы з часам уласную духоўную, праўную і літургічную традыцыю. Непрыязнасць да грэкаў, якія тады панавалі і прыгняталі коптаў, дала магчымасць арабам заняць Егіпет (641 г.) і ўвесці там новую рэлігію — іслам. У выніку праследаванняў з боку пануючых каліфаў ужо ў IX стагоддзі мусульмане складалі большасць насельнікаў краю.

Сёння Копцкая Артадаксальная Царква налічвае звыш 4 мільёнаў вернікаў і 37 епархіяў. Зверхнікам гэтае Царквы ёсць Яго Святасць Шэнуда III, які носіць тытул Папы Александрыі і Патрыярха Сталіцы св. Марка.

**4** Копцкая Каталіцкая Царква (копцкага абраду) налічвае каля 200 тысячаў вернікаў і шэсць епархіяў. Зверхнікам гэтае Царквы з'яўляецца Патрыярх Стэфанас II Гаттас. Царква гэтая вельмі дынамічная і добра арганізаваная, імкнецца ўтрымліваць прыязныя стасункі з артадаксальным Патрыярхам. У Копцкай Каталіцкай Царкве існуе абавязковы цэлібат духавенства. Гэтая практыка была прынятая з прычыны цяжкіх варункаў жыцця і працы копцка-каталіцкіх святароў.

**Юры КАРЭЙВА**

## Малітва верных

Да Айца нябёсаў
і Слаўнае Панны
Святое Марыі
і Божага Сына,
каб літавалі нас,
дасылаем літанні
з любое нагоды
і кожнай часінай.

Дай, Божа, нам Ласкі
да родных, да блізкіх
і бліжніх, ды ўсіх,
і жывых, і памерлых,
й да тых, што вучылі
ад самай калыскі
любіць Цябе, Божа,
і быць Табе верным.

І верым у цуд той,
што будзем пачуты
за ўвесь гэты люд
у гаротнай Айчыне,
за ўвесь у ёй, Божа,
народ Твой пакутны
й што Ты нас ніколі,
наш Ойча, не кінеш.

Наш Божа Ласкавы,
шле ў Неба Святое
удзячны твой люд
за Тваю ўзнагароду
плён кожнае справы
Табе — за ўсё тое,
што ў веры жыве
і з Табою заўсёды.

Дай кожнаму, Божа,
у добрае справе
трывалага духу
і шчодрага плёну,
каб жыў ён сумленна
й Цябе, Божа, славіў
ва ўсякай нагодзе,
заўсёдна й штодзённа.

### Ойча наш

Ойча наш,
Каторы ў Небе,
будзь Святым Тваё Імя.
Аб Тваім надзённым Хлебе
просім, Божа, наштодня.
Хай пануе Твая воля
як у Небе й на зямлі,
каб зямлі Тваёй ніколі
ў нас адняць больш не змаглі.
Божа, нашыя правіны
нам даруй і адпусці,
як і мы ўсім іх павінны
дараваць за ўсё ў жыцці.
Збаў нас, Божа, ад спакусы:
ад ліхога злыдня – збаў,
каб святое Беларусі
той злыдух не разбураў.

У віхурах і навалах
Край наш родны не пакінь,–
Будзь Твая ў Ім
Моц і Ўхвала
на вякі вякоў.
Амінь!

*г.Ліда*

**Яўген БАРТНІЦКІ**

***

Затухаюць касцёльныя свечкі.
Час ісці — я хачу быць з Табою.
Там, за крок, непагасныя спрэчкі —
Я ж к Табе сваё сэрца ўзнёс.

Так патрэбна твая мне пяшчота
Ў час, калі прабываю з журбою,
Ў час, калі нелакоіць самота
І не хваліцца поспехам лёс.

Для мяне ж Твая радасць — усмешкай,
А Твой сум як пякучай слязою,
Твой жа крок — мне адзінаю сцежкай
Праз жыццё да Цябе, да нябес...

***

Зноў сумуеш, сябра мілы мой:
Вочы апусціў — і твар журыцца.
Кружыць свет нясталасцю сваёй —
І няма табе дзе прыхіліцца.

Колькі ты прайшоў ужо дарог,
Колькі страціў сіл, і колькі планаў
Лёс змяніць, бы чараўнік той, змог,
Колькі здрад спаткаў ты і падманаў.

Так жадаў ты шчасце даганяць:
Бегчы, крочыць — тое ж уцякае.
Крыж з плячэй хацелася так зняць,
Сэрца ж кажа: Бог цябе чакае.

Нас чакаюць! Дай сваю далонь —
Разам пойдзем віхрам на сустрэчу.
Што нам дождж і што для нас агонь —
З Богам пераможам страх, пустэчу.

***

Калі цвілі сады маёй радзімы,
А цвет іх быў як аганькі,
Калі на ранку клёкат мне бусліны
Даносіў ветрык шапаткі,
Калі вясною дыхала пустэча,
Зімы пазбавіўшыся сну,
Калі любоўю душаў халадэча
Заззяла ў сонечным вянцу –
Тады я жыў, тады было мне добра.

## Ідзе Імша і Бог так блізка

Прапахлі сцены Бернардынаў
Кадзідлам даўніх таямніцаў,
Пацьмелі ад людскіх правінаў
Вакенцы славядніцаў.

Дрыжаць, старэючы, арганы,
Пужаюць пыл спрадвечны.
На свечках пломень кволы, цьмяны;
Пабожны слеў дарэчны...

Ідзе Імша і Бог так блізка...

*г.Санкт-Пецярбург, Расея*

**дыякан Алег КАЦАПАЎ**

## Фрагменты

♦ Грэх — гэта вынік нашага гневу супраць волі Божае.

♦ Нам больш уласцівы страх пражыць без граху, чым без Бога.

♦ Няма такіх грахоў, якія Бог не мог бы дараваць нам,— ёсць дзеі волі Ягонае, якія *мы* не можам дараваць Яму.

♦ Страх Гасподні — страх за Госпада, боязь пакрыўдзіць Яго, знявечыць і без таго Яго знявечаныя рукі, кінуць Ягоную святасць на патаптанне свінням, нашым грахам... — Божа, даруй нам нашу «адвагу».

♦ Левай рукой чухаю патыліцу, бо правая пераварочвае старонкі праваслаўна-каталіцкіх палемічных твораў. Задумваюся. А кім быў Ісус: католікам ці праваслаўным... Абедзве рукі спыняюцца... Аказваецца — юдэем.

♦ Згаджацца са злом?!! — Хіба яно калі-небудзь парупілася згадзіцца з намі і спакойна адысці.

♦ Гавары! Кажы! Не маўчы! Навучы мяне цішыні. Навучы, маё сэрца!

♦ Мудрасць гаворыць ціха, вельмі ціха, і трэба толькі прыслухацца — сцісне вушы ад салодкага грукату.

♦ Лёгкім штуршком думкі можна абразіць Госпада Бога і адным словам «Ісус» ускалыхнуць усё пекла. Якая тонкая сіла!

♦ Лепей несці цяжкі крыж, чым лёгкага чорта.

♦ Праз што даецца жыццё, праз тое можа прыйсці і смерць.

♦ Калі ава — святы, тым больш святое і дзіця ягонае, якое паклала волю сваю пад ногі настаўніка.

♦ Задавальненне надае спакусе толькі паўнату, а не знішчае яе.

♦ Нашы слугі — тыя, каму мы павінны служыць.

♦ Калі паверыш у Бога і паверыш Яму,— усё роўна не пераставай шукаць Яго, каб вера твая ўзмацнялася Верай.

♦ Самае цікавае ў гэтым жыцці само жыццё.

♦ Праз меру суцяшаць тых, хто падае,— усё роўна што сесці ім на спіну і не даць падняцца.

*г.Гомель*

З дапамогаю шматлікіх манаскіх Задзіночанняў (39 жаночых і 14 мужчынскіх) Копцкая Каталіцкая Царква праводзіць шырокую адукацыйную і харытатыўную дзейнасць. Толькі каталіцкіх школаў, у большасці пачатковых,— больш за 150. Да таго ж ёсць сірацінцы, больніца і дамы састарэлых.

Яшчэ ў Егіпце існуюць епархіі Усходніх Каталіцкіх Цэркваў, якія традыцыйна прысутныя ў Егіпце: халдэйскай, сірыйскай, мараніцкай, армянскай, грэка-мельхіцкай, а таксама для католікаў лацінскага абраду.

Каталіцкіх біскупаў (рознага абраду) у Егіпце ёсць 15, усіх каталіцкіх святароў — 445 (у тым ліку 210 епархіяльных святароў), законных сёстраў — 1222 і свецкіх катэхетаў — 1400.

***

На фоне ісламскага фундаменталізму, які адраджаецца, хрысціяне ў Егіпце не маюць простага жыцця. Каб атрымаць дазвол на пабудову новай святыні, трэба выканаць дзясяткі фармальнасцяў. Іншай важнай праблемай з'яўляюцца змяшаныя жанімствы паміж хрысціянамі і мусульманамі, якія па закону маюць перавагі.

Не зважаючы на шматлікія цяжкасці, хрысціяне ў Егіпце дбаюць пра тое, каб іхная прысутнасць у гісторыі, а таксама ў сучаснасці Егіпту не абмяжоўвалася толькі музейнымі згадкамі і гістарычнымі успамінамі. Яны адважна сведчаць сваю веру і актыўна бяруць удзел у жыцці мясцовых царкоўных грамадаў.

# Да 75-х угодкаў заснавання ўніяцкай парафіі ў Альбярціне

*4 лістапада 1999 году мінула 75 гадоў з дня, калі ў Альбярціне з'явіліся першыя два Айцы Езуіты і тым самым заклалі пачатак Усходняй Місіі Айцоў Езуітаў сярод беларусаў. Распачатая Айцамі Езуітамі ўсходняга абраду апостальская праца хутка прынесла плён — шмат беларусаў выказалі жаданне стаць каталікамі ўсходняга абраду. Сёлета, 24 ліпеня, спаўняецца 75 гадоў з дня, калі тагачасны Віленскі біскуп Юры Матулевіч выдаў дэкрэт пра ўтварэнне Альбярцінскай парафіі славяна-візантыйскага абраду.*

*На жаль, сёння мы непараўнальна мала ведаем пра Альбярцін — гэтую цікавую старонку гісторыі нашай Царквы. Артыкул «Пачаткі і развіццё Альбярціна» з польскамоўнага міжваеннага рэлігійнага часопіса «Oriens», які мы прапануем увазе чытачоў «Царквы», грунтоўна, вачыма сучасніка, апавядае пра пачаткі неаўніі ў Заходняй Беларусі, пра станаўленне яе галоўнага апірышча — Усходняй Місіі Закону Айцоў Езуітаў у Альбярціне.*

*Артыкул гэты, як і ўвесь двумесячнік, скіраваны быў найперш на польскае грамадства з мэтаю пашырэння кола прыхільнікаў адраджэння Уніі. Аднак жа далёка не ўсім тады падабалася дзейнасць Айцоў Езуітаў. На Усходнюю Місію ў Альбярціне ішлі пастаянныя намовы і скаргі свецкім і духоўным польскім уладам. Шавіністычныя польскія колы імкнуліся ўсяляк давесці, што праз візантыйска-славянскі абрад, адбываецца русіфікацыя мясцовага «польскага люду». Не вельмі дапамагло і рашучае заступніцтва Р.Ялбжыкоўскага, архібіскупа Віленскага, які 11 лютага 1933 году, з нагоды шматлікіх нападак на альбярцінскіх Айцоў нават выдаў спецыяльны Пастырскі ліст. Моцна перажываючы за лёс святой справы хрысціянскага з'яднання, ад сардэчнага прыступу 23 сакавіка 1933 году памёр а. Уладзімір Пянткевіч, протаігумен місіі і суперыёр законнага дому Айцоў Езуітаў у Альбярціне.*

*Пра атмасферу, у якой даводзілася працаваць альбярцінскім езуітам, у пэўнай ступені сведчыць заключная частка артыкула. Ягоны аўтар (верагодна, рэдактар «Арыенсу», езуіт а. Ян Урбан) спрабуе давесці польскаму абывацелю, што ані альбярцінскія езуіты, ані Апостальская Сталіца, не робяць аніякага падкопу пад Польскую дзяржаву, яны проста грунтоўна і шчыра займаюцца апостальскай працай сярод тых, хто шукае хрысціянскае еднасці.*

*Альбярцінскія Айцы належалі да розных нацыянальнасцяў, але ж агульнай для ўсіх іх была павага да народу, сярод якога яны вялі сваю місійную дзейнасць. Таму яны імкнуліся авалодаць тымі мовамі, якімі карысталася карэннае насельніцтва. Пацверджанне гэтай моўнай талерантнасці чытачы знойдуць таксама і ў наступных нашых публікацыях пра міжваенную Унію.*

# Пачаткі і развіццё Альбярціна

Калі адзін з польскіх святароў падчас аўдыенцыі ў Пія XI, на пытанне, адкуль прыбыў, адказаў, што са Слоніма, Святы Айцец спыніўся на хвіліну, нібы шукаючы ў памяці, у якой жа гэта ваколіцы Польшчы знаходзіцца гэтае месца. Святар дапамог зарыентавацца Святому Айцу, калі дадаў, што гэта ёсць блізка Альбярціна. Пра Альбярцін, дзе ён месціцца і што ў ім знаходзіцца, Святы Айцец добра ведаў.

Гэтая невялікая мясцовасць, адлеглая на 4 км ад Слоніма, размешчаная пры чыгунцы Варшава-Масква, аточаная лясамі, некалі толькі сядзіба з лясной гаспадаркай і сялянская вёска, у апошнія гады перад вайной (маецца на ўвазе I Сусветная вайна — *Рэд.*) пачала рабіцца ўсё больш прамысловай. Было пабудавана


*Перабудаваная царква Айцоў Езуітаў*

некалькі фабрыкаў, да якіх нахлынула багата чужога люду, пераважна з усходу. Вайна тыя фабрыкі знішчыла, пасля іх і дагэтуль стаяць сумныя шкілеты, насельніцтва збяднела. У гады непасрэдна па вайне Альбярцін мала каму быў вядомы, яшчэ менш каго ён цікавіў. Дагэтуль ён нават з нэндзы яшчэ не выйшаў, але ж стаўся досыць слаўны. Назву Альбярціна можна спаткаць штораз часцей на старонках загранічных часопісаў, а ў польскіх, можа, ажно занадта часта.

Што ж сталася? Дзякуючы чаму гэты загублены ў лясах куток мае свой розгалас? Вось жа менавіта кляштару, які некалькі гадоў таму тут паўстаў.

***

Раней мы далі матэрыял, які паказвае пачаткі ўнійнае акцыі на Падляшшы. Уласна запачаткаваўшы гэтую акцыю напрыканцы 1923 году ў сваёй дыяцэзіі, Я.Э. кс. Біскуп Пшэздзецкі звярнуўся да а. Генерала Таварыства Ісуса з просьбай аб дапамозе. І сапраўды, а. Генерал Ледухоўскі рашыўся на ўтварэнне ў межах Закону галіны ўсходняга абраду і на выкарыстанне яе для місійнае працы на ўсходніх рубяжах Польшчы. Быў ужо нават у Законе адзін святар, француз, а. Караль Васіль Буржуа (*Bourgeois*), які прыняў усходні абрад, каб несці дапамогу расейскім уцекачам у Францыі, што цягнуліся да Царквы. Гэтага святара і накіраваў у Польшчу а. Генерал вясною 1924 г., каб працаваў згодна ўказанням кс. Біскупа Падляшскага. Французскае паходжанне а. Буржуа мела быць доказам таго, што запачаткаваная ўнійная акцыя з'яўляецца выключна рэлігійнаю, вольнай ад польскіх нацыяналістычных тэндэнцыяў, ад намераў вынарадаўлення каго-кольвечы праз унію. На дапамогу а. Буржуа быў далучаны другі святар, а. Міхал Маліноўскі, паляк, што паходзіў з Віленскае дыяцэзіі, але належаў да польскай правінцыі Езуітаў, які, аднак, застаўся пры лацінскім абрадзе. Гэтыя два Айцы вырушылі летам 1924 г. на Падляшша, дзе ў ваколіцах Уладавы можна было заўважыць сярод праваслаўнага насельніцтва пэўныя сімпатыі да уніі. Пры іхнай дапамозе была зарганізаваная ў вёсцы Голя першая нова-ўніяцкая парафія.

Пасля нядоўгае працы і атрыманага на ёй досведу зверхнікі Закону прыйшлі да пераканання аб патрэбе ўладання Законам уласнага пункту апоры для Айцоў, што мелі браць чынны ўдзел ва ўнійнай акцыі. Словам, была адчута патрэба ў асобным кляштары для ўсходняга абраду. Провід хутка дазволіў увасобіць гэты праект. Менавіта тады вялікі сябар Таварыства, граф Уладзіслаў Пуслоўскі, меў намер зрабіць нейкую фундацыю езуітам альбо падтрымаць іхную працу, што развівалася на былых расейскіх землях. Даведаўшыся ад тагачаснага правінцыяла а. Станіслава Сопуха аб патрэбе заснавання кляштару Айцоў Езуітаў усходняга абраду, ён ахвяраваў на гэтыя мэты будынак у сваім маёнтку Альбярціне. Тым будынкам быў жылы дом для дырэктароў некалькіх зачыненых ужо фабрыкаў. Ён быў досыць занядбаны, аднак лёгка мог быць прыстасаваны для новых мэтаў. Дом быў аточаны досыць вялікім агародам, размешчаны ў баку пад лесам. Каля яго знаходзілася капліччка, нядаўна перараблёная з былой альтанкі паноў-дырэктароў. Езуіты, з удзячнасцю прымаючы шчодры дар графаў Пуслоўскіх, абяцалі адначасова, што будуць таксама стала абслугоўваць гэтую капліччку лацінскага абраду для зручнасці католікаў-палякаў з Альбярціну, якія адда-

леныя ад парафіяльнага касцёлу ў Слоніме на чатыры кіламетры.

Так паўстаў добра вядомы ўжо сёння альбярцінскі кляштар. Датай ягонага нараджэння можна лічыць дзень 4 лістапада 1924 году, калі а. Буржуа і а. Маліноўскі засяліліся ў ахвяраваны дом пасля выканання найнеабходных прыстасаванняў. У адным з пакояў гэтага дому была ўтворана сціплая капліча ўсходняга абраду, у якой пачаў адпраўляць усходнюю літургію а. Буржуа, у той час калі а. Маліноўскі ахапіў абслугаю лацінскую капліцу. Хіба не быў гэта дасканалы сімвал еднасці каталіцкай веры ў двух розных абрадах? У першы год існавання гэтага кляштару яго наведвалі, жывучы ў ім тыднямі і месяцамі, таксама святары, якія нядаўна былі прынятыя з праваслаўя да царкоўнае еднасці, тут яны рыхтаваліся да прыёму парафіяльных пляцовак, якія ім меў намер даручыць кс. Біскуп Пшэзьдзецкі. Дадамо тут таксама, што Альбярцін не знаходзіцца на тэрыторыі Падляшскай дыяцэзіі, але належыць да Віленскай дыяцэзіі. Калі ж ён паўстаў, была заініцыявана ўнійная акцыя таксама і ў гэтай дыяцэзіі. Зрэшты, альбярцінскія Айцы, апрача абслугі мясцовых капліцаў, пачалі ўжо рабіць апостальскія выезды то на Падляшша, то на тэрыторыі іншых крэсовых дыяцэзіяў, каб вывучыць сітуацыю і наладзіць неабходныя стасункі з праваслаўным людам і мясцовым каталіцкім духавенствам.

Ліпень 1925 г. быў месяцам узбагачэння альбярцінскае пляцоўкі новымі святарскімі сіламі. Вось жа 18 ліпеня абавязкі зверхніка гэтага дому прымае а. Уладзімір Пянткевіч, які займаў у Законе адказныя пасады прафесара тэалогіі, зверхніка шэрагу дамоў Галіцкае правінцыі і нарэшце правінцыяла гэтай самай правінцыі. Гэты святар, які быў ужо ў гадах, без ваганняў сам папрасіў зверхнікаў, каб ён мог перайсці на ўсходні абрад, каб працаваць на гэтай новай ніве, з якой спадзяваўся атрымаць шмат карысці для Царквы і славы для Польшчы. Апрача яго ў сціплае кола ўсходніх Езуітаў уводзіцца малады святар, а. Антон Дамброўскі, выхаванец Пецярбургскай духоўнай акадэміі, які ў 1925 г. скончыў свае спецыяльныя студыі ў Рыме. Трэцім новым працаўніком становіцца святар Марцэлі Высакінскі, які ўступіў у Закон як святар адной з усходніх дыяцэзіяў. Аднак у той самы час а. Буржуа быў адкліканы з Польшчы і пераведзены ў Чэхаславакію. 24 ліпеня таго ж 1925 г. дэкрэтам тагачаснага біскупа Віленскага Ю.Матулевіча пры капліцы ўсходняга абраду ў Альбярціне была кананічна ўтворана парафія гэтага ж абраду. Сталася гэта таму, што пэўная частка праваслаўнага люду Альбярціна, якая спачатку прыходзіла на набажэнствы дзеля цікавасці, пажадала паспраўднаму далучыцца да Царквы.

У наступны год, 1926, адбыўся новы крок у развіцці Альбярціна. А. Генерал Ледухоўскі закладае асобны навіцыят закону для ўсходняга абраду, весці яго, як настаўніку навікоў, ён даручае мясцоваму зверхніку, альбо супэрыёру а. Уладзіміру Пянткевічу.

У тым самым годзе ў ліпені месяцы паўстае новая пляцоўка працы для Айцоў, а менавіта новая парафія ўсходняга абраду ў мясцовасці Сынковічы, адлеглая на 18 км ад Альбярціна. У гэтай мясцовасці, бязлюднай, ледзьве не ў чыстым полі паміж земскімі сядзібамі, знаходзіцца царква, збудаваная яшчэ ў першыя гады XVI стагоддзя як праваслаўная, затым — пасля Берасцейскай уніі — уніяцкая, пазней зноў праваслаўная, якая ўрэшце пасля ўцёкаў падчас вайны праваслаўнага святаслужніка засталася без сталай абслугі і выкарыстоўвалася для рэдкіх набажэнстваў у лацінскім абрадзе. Гэтую цэркаўку віленская дыяцэзіяльная ўлада прызначыла пад пляцоўку новай унійнай акцыі, а праца пры ёй была даручана а. Марцэлію Высакінскаму, які таксама жвава і рупліва ўзяўся за справу, абыходзячы вёскі, што некалі складалі сынковіцкую праваслаўную парафію, і здабываючы насельніцтва для уніі. Для нешматлікіх каталікоў лацінскага абраду, што знаходзіліся ў недалёкіх сядзібах, у гэтай самай царкве святаром, які прыязджаў бы са Слоніма, мелася адпраўляцца лацінскае набажэнства раз на некалькі тыдняў.

У 1927 годзе кола Езуітаў усходняга абраду павялічылася яшчэ на двух святаслужнікаў: імі былі а. Павел Мацэвіч, які раней рупліва працаваў у Варшаве ў якасці езуіцкага святаслужніка лацінскага абраду, і святар Эдвард Войтчак, перад уступленнем у Таварыства — святаслужнік у польскім войску. У 1928 г. у дапамогу альбярцінскім Айцам кіраўніцтвам Закону быў пасланы а. Філіп дэ Рэжыс (de Régis ), француз, які надзвычай хутка здолеў засвоіць мясцовыя мовы, у тым ліку і польскую. У тым самым годзе віленская дыяцэзіяльная ўлада прапанавала альбярцінскім Езуітам узяць пад абслугу царкву ў Вільні, прызначаную для ўсходняга абраду. Гэтую святыню з 1925 г. абслугоўвалі па чарзе некалькі святаслужнікаў, што былі прынятыя з праваслаўя, некаторыя з іх, аднак, на жаль, адпалі ад уніі (у тым ліку першы ейны рэктар, архімандрыт Філіп Марозаў). Да абслугі віленскай пляцоўкі быў прызначаны а. Павел Мацэвіч, які на ёй працуе і дагэтуль. Аднак быў адкліканы з Альбярціну на іншую працу а. Маліноўскі, пасля якога абслугу лацінскай капліцы спаўнялі, мяняючыся, Айцы лацінікі. У 1929 г. у Таварыства, а менавіта ў навіцыят усходняга абраду, уступіў святар Антон Неманцэвіч, святаслужнік Магілёўскае архідыяцэзіі, які некалькі гадоў святарскай працы правёў у Маскве, якога неаднаразова арыштоўвалі бальшавікі.


Альбярцін. Памятны крыж Айцам Езуітам

У 1931 г. альбярцінскім Айцам дабавілася чацвёртая пляцоўка працы — Папская семінарыя ў Дубне на Валыні, пра якую мы падрабязна пісалі ў першым выпуску «Арыенсу». На рэктара гэтае ўстановы быў пакліканы а. Антон Дамброўскі, які апошнія некалькі гадоў выконваў функцыі настаўніка альбярцінскага навіцыяту. З кола Айцоў у Альбярціне зышоў таксама а. Войтчак, якому цяжкая хвароба не дазволіла працаваць надалей ва ўсходнім абрадзе, і ён, такім чынам, вярнуўся ў лацінскі абрад.

Як жа ўяўляюцца канкрэтныя вынікі працы альбярцінскіх Айцоў?

У Вільні а. Мацэвіч абслугоўвае даручаную яму царкву і парафію, апякуючыся жаночым законным задзіночаннем усходняга абраду (пра яго глядзі папярэдні выпуск «Арыенсу»), урэшце рэдагуе яшчэ штомесячны часопіс на расейскай мове пад назовай «К Соединению».

У Дубне Айцы кіруюць Папскай семінарыяй.

У Альбярціне існуе і развіваецца навіцыят. У 1931 г. манастырскі будынак быў значна пашыраны праз надбудову паверху і жылога паддашку на III паверсе. Колькасць прынятых у навіцыят у 1926-1932 гг. дасягнула 63, з іх, аднак, 18 праз пэўны час выпрабавання пакінулі навіцыят. Перыяд выпрабавання ў навіцыяце трывае два гады, пасля чаго навікі складаюць простыя манаскія шлюбы, і тыя з іх, якія прызначаныя для студыяў і ў перспектыве


Кляштар Айцоў Езуітаў усходняга абраду ў Альбярціне. Фота 1930-х гадоў

Працяг на с.14

# Пачаткі і развіццё Альбярціна

*Працяг, пачатак на с.12-13*

для святарства, накіроўваюцца ў калегіюмы Таварыства ў Пінску (сярэдняя адукацыяі ў гімназіі), у Кракаве (курс філасофіі), у Любліне альбо Рыме (тэалогія). Дагэтуль яшчэ ніхто з альбярцінскіх навікоў (апрача а. Неманцэвіча, які ўступіў як святар) не дачакаўся святарскіх свячанняў і не працуе рэальна ва ўнійнай акцыі. Прыбылі толькі айцы Антон Зэмбэк, Пётр Бужак і Фелікс Роўзман, якія яшчэ адбывалі лацінскі навіцыят, але падчас вучобы ў семінарыі былі далучаныя да «ўсходняе місіі» і цяпер з'яўляюцца ўжо святаслужнікамі ўсходняга абраду.

Паводле найноўшага каталогу Закону колькасць навікоў у Альбярціне з 1932 на 1933 г. складала 12 схаластыкаў (г.зн. тых, што рыхтуюцца да святарства) і 7 каад'ютараў, г.зн. прызначаных да абслугі дому законнага. Апрача навіцыяту, Альбярцін мае парафію ўсходняга абраду, у якой пасля дакладнага падліку, на 1 студзеня 1933 году, выявілася 509 вернікаў. На працягу 1932 г. да уніі перайшло 50 праваслаўных, адпаў ад яе адзін. Апрача гэтага Айцы выязджаюць да навакольных вёсак, імкнуцца даць магчымасць пазнаць насельніцтву каталіцызм усходняга абраду. Таксама яны працуюць як катэхеты ў мясцовай школе. Адзін са святароў, а. Неманцэвіч, адначасова парах альбярцінскае парафіі, рэдагуе штомесячны часопіс на беларускай мове пад назовай «Да Злучэння».

Парафія ў Сынковічах паўстае досыць паважна, бо налічвае звыш 1000 душаў. На працягу аднаго 1931 году ў парафіяльныя метрыкі былі запісаныя 20 удзеленых шлюбаў, 70 пахаванняў і 140 хростаў; да велікоднага Прычасця прыступіла 500 асобаў. Айцец парах Высакіньскі ўдзяляе навуку рэлігіі уніяцкім дзецям у некалькіх пачатковых школах.

Збярэм яшчэ раз лічбы ўдзельнікаў усёй Усходняй Місіі Айцоў Езуітаў, так як яны пададзены паводле найноўшага каталогу Закону на 1933 г.

Місія налічвае на дадзены момант:

| | |
|---|---|
| *Святароў* | 12 |
| *Схаластыкаў (г.зн. клерыкаў і навікоў)* | 37 |
| *Братоў каад'ютараў (пасля манаскіх шлюбаў і ў навіцыяце)* | 16 |
| *Разам* | 65 |

Тут трэба дадаць, што ў ліку 12 святароў ёсць тры, якія не належаць да ўсходняга абраду. Адзін з іх абслугоўвае лацінскую капліцу ў Альбярціне; два іншыя з'яўляюцца прафесарамі ў Семінарыі ў Дубне. Такім чынам ужо толькі дзевяць святароў належыць да ўсходняга абраду, прычым двое з іх яшчэ заканчваюць свае студыі і на ўнійных пляцоўках не працуюць. Вось тады і бачым, якія перабольшанні дапускаюць некаторыя публіцысты, якія, пачуўшы пра колькі дзясяткаў удзельнікаў «усходняе місіі» Айцоў Езуітаў, прыдумляюць сабе, што ўсё гэта ёсць святары ўсходняга абраду, што ўжо адкрыта дзейнічаюць на ўсходніх ускраінах, і што таму іх паўсюль поўна і г.д. Што да астатніх удзельнікаў місіі, то браты каад'ютары (у колькасці 16 асобаў) займаюцца абслугаю ў доме (кухары, садоўнікі, закрыстыяне) і не ўсе яны ўсходняга абраду, бо ёсць сярод іх і лаціннікі; падобна і схаластыкі, г.зн. клерыкі (у колькасці 37 асобаў), што знаходзяцца пераважна на студыях у розных дамах свайго Закону, удалечыні ад тэрыторыі ўнійнае акцыі. У саміх дамах «місіі», якія былі названыя вышэй, знаходзіцца наступная колькасць удзельнікаў: у Альбярціне — 30 (5 святароў, 13 схаластыкаў, 12 каад'ютараў), у Дубне — 6 (4 святары і 2 каад'ютары), у Сынковічах — 3 (адзін святар і 2 каад'ютары) і ў Вільні — 1 святар.

Цікава будзе далучыць і дадзеныя адносна нацыянальнасці ўсходніх Езуітаў. Нядаўна, даверыўшыся «біскупу нацыянальнае Царквы» Фарону, які невядома адкуль гэтыя звесткі выцягнуў, прэса лямантавала, што навіцыят у Альбярціне апанаваны «ўпорнымі» украінцамі з Малапольшчы, якіх мае быць ажно 26. Кіраўніцтва кляштару ў Альбярціне вымушанае было абвергнуць гэтыя «звесткі» пры дапамозе К.А.Р., і адзначыла пры гэтым, што сярод навікоў на дадзены момант ёсць 6 палякаў, 2 беларусы, 1 чэх і адзін украінец. Фаран памножыў яго на 26. Больш-менш падобныя колькасныя суадносіны ў нацыянальным складзе датычаць і ўсіх, хто паза навіцыятам; большую частку ўдзельнікаў усходняе місіі складаюць палякі.

Як відаць з вышэйсказанага, усходняе адгалінаванне Таварыства Ісуса знаходзіцца сёння ў стане арганізацыі і падрыхтоўкі. Фактычна з насельніцтвам працуе хіба некалькі святароў. Але гэтая лічба ў бліжэйшыя гады будзе ўзрастаць, пасля таго, як моладзь з Закону, што горнецца да гэтага абраду, закончыць сваю падрыхтоўку і прыме святарскія свячанні. Іншая справа, якая робіцца зразумелай з вышэйпададзенага, тое, што ўсходнія Езуіты далёка не з'яўляюцца тым чыннікам, які кіруе ўсёй унійнай акцыяй на ўскраінах, як гэта ў большасці сваёй падаецца ў прэсавай палеміцы супраць гэтай акцыі. Кіраўніцтва, згодна ўказанняў Апостальскай Сталіцы, знаходзіцца ў руках пяці польскіх біскупаў; Езуіты ж толькі далучаныя да працы пад іхнім кіраўніцтвам і без іх ведання і дазволу, а хутчэй заклiку, ніякай у гэтай сувязі працы самастойна не робяць і рабіць не могуць. Зрэшты, на амаль 50 пляцоўках, на якіх адзначаецца гэтая акцыя, яны маюць у сваіх руках хіба толькі чатыры.

Нарэшце, яшчэ пару словаў, што да назвы «Усходняя Місія Айцоў Езуітаў», якая фігуруе нават на нашым «Арыенсе», як ягоным выдаўцы. Некаторым здаецца, што гэтая назва ў пэўнай ступені крыўдзіць праваслаўных, бо нібыта сведчыць, што іх трактуюць нароўні з паганцамі, якія патрабуюць навяртання да Хрыста. Але ж у назове гэтым нічога падобнага ня мае месца. Можна было б тут звярнуць увагу, што ўсё ж такі гаворка йдзе пра «місіі ўнутраныя», г.зн. сярод саміх каталікаў з мэтаю абвяшчэння ім пакаяння. Вось чаму не прыраўноўваем каталікаў да паганцаў. «Місія» азначае пасланніцтва Царквы, і кожнае канкрэтнае дзеянне ды царкоўная праца можа быць названа місіяй без знявагі каго-кольвечы. У нашым выпадку выраз «місія» мае ўласна іншае значэнне. Закон Езуітаў падзелены ў плане кіравання на правінцыі. Аднак здараецца, што паўстае нейкае новае поле дзейнасці і фармуецца група працаўнікоў, якіх, аднак, яшчэ замала, каб з іх стварыць асобную правінцыю. У такім разе такая група, пакуль расце, застаецца да часу пад зверхніцтвам адной з правінцыяў Закону, носіць назову «місіі», незалежна ад таго, ці маецца на ўвазе заморскі край, ці еўрапейскі, ерэтычны ці каталіцкі.

Вось чаму гэтая назова мае значэнне чыста адміністрацыйнае. Такую самую групу складаюць, напрыклад, польскія Езуіты, што працуюць у Радзэіі, але залежныя ад Малапольскае правінцыі; да нядаўняга часу «місіяй» называлася група Езуітаў, што працавалі ў Румыніі, але былі таксама залежныя ад Малапольскай правінцыі (цяпер яна называецца Румынская «віцэ-правінцыя»); у гэтым значэнні «ўсходняй місіяй» ёсць Езуіты ўсходняга абраду, якія не складаюць яшчэ асобнай правінцыі, але залежныя ад правінцыі Вялікапольскай і Мазавецкай. Далейшае разрастанне гэтай «місіі», пэўна ж, спрычыніцца з часам да перайменавання яе на «віцэ-правінцыю», а, можа, нават і на цалкам незалежную правінцыю.

*Пераклад з польскай І.Бараноўскага*

***(«ORIENS», САКАВІК-КРАСАВІК, 1933).***



*Айцы, браты і навікі Таварыства Ісуса ўсходняга абраду ў Альбярціне (у цэнтры протаігумен а. У.Пяніткевіч).*

# З жыцця слонімскіх грэка-католікаў

Паступова адраджаецца грэка-каталіцкае жыццё на Слонімшчыне. Дзясяткі пасляваенных гадоў мясцовыя грэка-каталікі (уніяты), пазбаўленыя святароў і запалоханыя савецкімі ўладамі, не мелі магчымасці весці нармальнае рэлігійнае жыццё. І вось цяпер відавочныя пэўныя зрухі да лепшага.

З лета мінулага году ў Слоніме адбываюцца рэгулярныя набажэнствы, якія пакуль адпраўляюцца ў прыватным памяшканні грэка-каталіцкімі святарамі з Берасця — а. Ігарам Кандрацьевым і дыяканам Вадзімам Зарковым. Нядаўна ў органы ўлады былі пададзены дакументы для рэгістрацыі Слонімскай рэлігійнай грэка-каталіцкай парафіі Святой Тройцы. Сярод заснавальнікаў — і даўнейшыя ўніяты, а таксама і тыя, што захоўвалі вернасць сваёй Царкве нават тады, калі яна была заборонена і знаходзілася ў падполлі (у Слонім час ад часу прыязджаў святар, а пазней і самыя вернікі ездзілі на вялікія святы на Украіну), і моладзь, якая шукае Бога й вяртаецца да веры сваіх продкаў.

Старшынёй слонімскае грамады грэка-католікаў абраная сп-ня Яўгенія Лазар.

У мінулым годзе група слонімцаў з пяці чалавек брала ўдзел у пілігрымцы беларускіх грэка-каталікоў да цудатворнай іконы Маці Божай у Закарпацце. Удзельнічалі слонімцы і ў святах грэка-каталіцкіх парафіяў: у Лідзе — у гонар Язафата і Баранавічах — на Раство, неаднойчы наведвалі парафіі ў Менску, Берасці й Горадні.

У бліжэйшых планах слонімскіх уніятаў — выданне сваёй невялікай газеты. Сённяшнія маладыя грэка-каталікі збіраюць звесткі пра ўніяцкі рух у даваенным Альбярціне, дзе ў той час дзейнічаў манастыр і царква айцоў езуітаў. (Любую інфармацыю на гэты конт можна пераслаць таксама і на адрас газеты «Царква»). Цяпер былы ўніяцкі манастыр выкарыстоўваецца як інтэрнат, а царква значна перароблена і належыць ужо праваслаўным...

**Сяргей Ёрш**

# Дапамога асуджаным жанчынам

Клуб дзелавых жанчынаў разам з Берасцейскай грэка-каталіцкай парафіяй святых братоў апосталаў Пятра і Андрэя ўзялі пад сваю апеку жанчынаў, якія адбываюць пакаранне ў спецкамендатуры Берасця. Вырашана хоць бы некалькі разоў у год дапамагаць асуджаным жанчынам, тым самым даць ім шанец паверыць, што і ў гэтым свеце ёсць людзі, якія гатовыя дапамагаць ім у цяжкую хвіліну.

7 студзеня для гэтых жанчынаў быў арганізаваны дабрачынны калядны пачастунак, а таксама ім было перададзена сабранае адзенне, невялікія падарункі. Праз мясцовых прадпрымальнікаў былі сабраныя сродкі на лекі для асуджаных.

8 сакавіка адбылася другая сустрэча з жанчынамі, якія знаходзяцца пры спецкамендатуры. Для іх быў арганізаваны святочны стол і былі перададзены невялікія падарункі, зробленыя рукамі дзяцей-інвалідаў з інтэрнатаў Берасцейшчыны. На гэты раз і асуджаныя жанчыны вырашылі зрабіць прыемнае сваім дабрачынцам — у тых няпростых умовах, у якіх яны знаходзяцца, яны здолелі арганізаваць невялічкі канцэрт, падчас якога спявалі народныя песні, чыталі вершы. Не абыйшлося без слёзаў. Айцец Ігар Кандрацьеў прачытаў сумесна з прысутнымі малітву «Ойча наш» і гаварыў да іх невялікае казанне. А потым для жанчынаў былі яшчэ беларускія рэлігійныя спевы пад электраарган, якія не маглі не крануць душаў асуджаных жанчынаў.

Што асабліва кранула — асуджаныя жанчыны пажадалі аддзячыць дзецям-інвалідам за іх падарункі, дзеля чаго яны са сваіх больш чым сціплых заробкаў сабралі ім грошы на цукеркі.

Дай Бог, можа быць, гэтыя кантакты не дазволяць канчаткова ачарсцвець асуджаным, а мо і адагрэюць іх параненыя душы.

# Прэзентацыя беларускага перакладу Евангелля паводле Марка

4 сакавіка на Тэалагічным факультэце Еўрапейскага Гуманітарнага Універсітэту адбылася прэзентацыя чатырохмоўнага выдання Евангелля паводле Марка, якое было падрыхтавана Біблійнай камісіяй Беларускай Праваслаўнай Царквы. На прэзентацыю былі запрошаныя кіраўнікі і прадстаўнікі традыцыйных Цэркваў, якія дзейнічаюць у Беларусі. Ад Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы ў гэтай імпрэзе бралі ўдзел а.Андрэй Абламейка і сп. Яўген Андросік.

Біблійная камісія Беларускага Экзархату РПЦ пачала сваю дзейнасць у 1990 г. з благаславення мітрапаліта Філарэта. У 1991 г. быў выдадзены пераклад Евангелля паводле Матфея (Мацвея). Зараз, пасля даволі доўгага перапынку, выкліканага рознымі прычынамі, праца аднавілася, і Евангелле паводле Марка сталася чарговым вынікам працы камісіі. На прэзентацыі прагучалі прапановы яшчэ ў гэтым годзе падрыхтаваць да друку Евангелле ад Лукі, што благаславіў мітрапаліт Філарэт.

Прэзентацыя пачалася малітвай «Ойча наш», выкананай хорам хлопчыкаў. З уступным словам выступіў мітрапаліт Філарэт. Ён адзначыў важнасць той працы, якую праводзіць Біблійная камісія па перакладзе, экуменічнасць гэтае працы, яе важнасць для пашырэння хрысціянства ў Беларусі. Потым выступіў прадстаўнік Біблійнага таварыства сп. Герман Родаў, які таксама адзначыў важнасць перакладаў біблейскіх тэкстаў на беларускую мову, выказаўся за пашырэнне супрацоўніцтва паміж хрысціянскімі Цэрквамі. Протаярэй а. Сергій Гардун распавёў пра гісторыю перакладаў Святога Пісьма на беларускую мову і прааналізаваў пераклады, что рабіліся ў гэтым стагоддзі. Навуковец сп. Іван Чарота распавёў пра гісторыю ўтварэння і дзейнасць Біблійнай камісіі.

Як і папярэдняе Евангелле, гэтае — паводле Марка — выйшла ў чатырох мовах — грэцкай, царкоўна-славянскай, расейскай і беларускай з паралельнымі месцамі. Цяпер беларускія мовазнаўцы і вернікі змогуць ацаніць якасць і гэтага перакладу. На жаль, у адрозненне ад папярэдняга Евангелля паводле Мацвея, якое выйшла накладам у 50 000 асобнікаў, гэтае мае наклад у дзесяць разоў меншы — 5 000 асобнікаў.

Прэзентацыя завяршылася выступам хору хлопчыкаў, якія выканалі гімн «Магутны Божа» і некалькі рэлігійных песняў па-царкоўнаславянску. Пасля гэтага ўдзельнікі былі запрошаныя на святочны фуршэт.

**Яўген Андросік**

# Сямейныя рэкалекцыі ў Раўбічах

З 24 па 27 лютага пад Менскам на спартовай базе «Раўбічы» адбылася зімовая сесія сямейных рэкалекцыяў для сем'яў грэка-католікаў. Яна была арганізаваная пробашчам парафіі св. Язэпа а.Андрэем Абламейкам. Акрамя менскіх сем'яў з парафіяў св. Язэпа і Маці Божай Нястомнай Дапамогі, была запрошаная таксама сям'я з Баранавічаў. Выклады на рэкалекцыях праводзілі вядомыя сямейныя катэхеты з Польшчы — ліцэнзіяваны магістр тэалогіі Рышард Маджаеўскі і ягоная жонка Данута — магістр псіхалогіі. Асаблівая ўвага была нададзеная тэме прымірэння ў Юбілейным годзе.

Рэкалекцыі былі прысвечаныя сужонскай еднасці. Разглядаліся тры ўзроўні сужонскай еднасці: цялесная, душэўная і духоўная. Спецыяльны выклад для жанчынаў пра натуральныя метады планавання зачаццяў правяла інструктар фонду *«Human Life International»* парафіянка лідскай парафіі св. Язафата сп.Вольга Мудрэнка.

З дзесяццю дзеткамі на працягу рэкалекцыяў займалася катэхетка нядзельнай школкі парафіі св. Язэпа сп.Юлія Цыбульская. Ёй дапамагалі Зося і Таня Сёмухі.

У заключным выкладзе рэкалекцыяў сп-ня Данута распавяла пра «пяць моваў кахання» і ўменне вызначаць, якая з моваў найбольш зразумелая для сужонка.

Завершылася гэтая сесія шчырай размовай, у якой удзельнікі падзяліліся сваімі пачуццямі і меркаваннямі, якія яны вынеслі з гэтых рэкалекцыяў.

**Яўген Андросік**

# У Гомелі — парафіяльнае свята

30 студзеня 2000 году Гомельская грэка-каталіцкая грамада, якая мае сваімі апекунамі Трох Святцелеў — Рыгора Багаслова, Яна Залатавуснага і Васіля Вялікага — адзначыла сваё парафіяльнае свята. На жаль, сёння сталага святара ў гэтай парафіі пакуль няма. Таму ўрачыстую Літургію з нагоды свята ў Гомелі адслужыў а. Казімір Ляховіч, які па благаслаўленні айца архімандрыта Сяргея Гаека спецыяльна прыехаў з Менску. У сваім казанні да вернікаў а. Казімір асабліва адзначыў, што вялікія святцелі з'яўляюцца для ўсіх нас прыкладам пабожнасці і ахвярнага служэння ў абароне і пашырэнні праўдзівай веры Хрыстовай, а таксама прыкладам святасці і любові да Бога і бліжняга.

Упершыню мясцовыя прыхільнікі адраджэння каталіцтва беларуска-візантыйскай традыцыі пачалі збірацца на сумесную малітву яшчэ ў 1989 годзе. А праз 2 гады, у 1991 годзе, дзякуючы вялікай актыўнасці вернікаў, у Гомелі была зарэгістраваная адна з першых грэка-каталіцкіх парафіяў у Беларусі.

Для дзяцей

# Добры ўчынак

Вось, ужо распачаўся Вялікі пост. Пост — гэта заўсёды падрыхтоўка да нейкага свята. Вялікі пост — гэта падрыхтоўка да самага вялікага свята ў нашым літургічным годзе — Вялікадня.

На Вялікдзень мы ўзгадваем Уваскрэсенне Ісуса Хрыста з мёртвых. Сваім Уваскрасеннем Ён вызваліў ад смерці і нас. У Евангеліі ад Яна *(3, 16)* напісана: «Бог так палюбіў свет, што Сына свайго адзінароднага аддаў, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае».



Бог нас палюбіў, і лепшай выявай нашай веры будзе наша любоў да Бога і да іншых людзей. Аднойчы Ісуса запыталі пра тое, што трэба рабіць, каб патрапіць у Валадарства Нябеснае. На гэта Ісус адказаў, што трэба любіць Бога і бліжняга. «Хто мой бліжні, каб любіць яго?»— пыталіся ў Яго. У адказ Ён распавёў такую гісторыю. Адзін чалавек ішоў з Ерусаліму ў Ерыхон, але па дарозе на яго напалі бандыты, яны яго збілі, забралі ўсе грошы ды кінулі паміраць у пустэльні аднаго. Чалавек ляжаў вельмі доўга і ўжо быў блізка смерці, і не было нікога, каб дапамагчы яму. Міма прайшоў падарожны і нават не спыніўся, другі — палічыў, што ён вельмі заняты, а можа, спяшаўся, і таксама не спыніўся. Толькі трэці падарожны, заўважыўшы параненага, спыніўся, абмыў яму раны, перавязаў іх ды завёз яго ў прыдарожны гатэль, дзе заплаціў за яго свае грошы. «Ідзі ды так чыні»,— закончыў гісторыю Ісус.

Любіць — гэта азначае чыніць дабро, апе таксама не крыўдзіць іншых і не крыўдаваць. Падчас падрыхтоўкі — падчас паста — мы маем добрую магчымасьць зрабіць яшчэ больш добрых учынкаў, а таксама памірыцца з усімі, хто нас пакрыўдзіў, і папрасіць прабачэньня ў тых, каго, можа быць, пакрыўдзілі мы.

*Табе, напэўна, цікава, хто ж быў гэты трэці падарожны, які дапамог параненаму чалавеку? Ягонае імя схаванае сярод лічбаў і знакаў. Калі ты адкінеш усе матэматычныя знакі і спалучыш літары, што засталіся, ты даведаешся ягонае імя.*

245Д-5+9ОБ154РЫ94*С5А9М-7=+АР6+56=89Ы7681ТА-41+49НІН777

*Пра гэта ты можаш прачытаць таксама ў Евангеліі паводле Лукі (10, 25-37).*

**Чакаем ад цябе малюнак добрага ўчынку! Дашлі яго ў рэдакцыю «Царквы» да Пасхі.**

**а. Андрэй Абламейка**

Друкаваныя выданні, якія выйшлі ў выдавецтве «Сафія», (пры ўдзеле рэдакцыі газеты «Царква») ды іншыя, якія можна набыць у рэдакцыі «Царквы» за ахвяру:



Христофор Ниткевич
**«ЕВАНГЕЛЬСКИЕ БЛАЖЕНСТВА».**
*Полацак, «Сафія», 2000. 96 с. Наклад 1500 асобнікаў.*
Евангельскія блаславенствы з'яўляюцца заўсёды актуальным шляхам развіцця хрысціянскага жыцця. У Юбілейным Годзе, калі Святы Айцец Ян Павел II збіраецца ў пілігрымку на Гару Блаславенстваў у Святой Зямлі, кніга мансіньёра К.Ніткевіча мае асаблівую актуальнасць.



**ЮБІЛЕЙНЫ КАЛЯНДАР ГАЗЕТЫ «ЦАРКВА».**
*Берасце, рэдакцыя газеты «Царква», 1999. 12 с. Наклад 1200 асобнікаў.*
Каляровы перакідны каляндар на 2000 Год рэпрэзентуе мінулае і сучаснае Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі, з усімі царкоўнымі святамі і важнымі падзеямі Юбілейнага Году, а таксама чытаннямі і святымі на кожны дзень.



Вячаслаў Пялінак
**«РОСІЦКІЯ МУЧАНІКІ».**
*Росіца, касцёл Св. Тройцы, 1999. 48 с. Наклад 15 000 асобнікаў.*
Кароткі аповед пра жыццё блаславёных мучанікаў з Росіцы, якія напісаны на падставе гістарычных дакумвнтаў і сведчанняў, што былі сабраныя ў сувязі з беатыфікацыйным працэсам святароў марыянаў а. Юрыя Кашыры і а. Антонія Ляшчэвіча.

АРХІЎ УНІЯЦКІХ МІТРАПАЛІТАЎ



**АРХІЎ УНІЯЦКІХ МІТРАПАЛІТАЎ.**
*Менск-Полацак, «Сафія», 1999. 386 с. Наклад 300 асобнікаў.*
У даведнік увайшлі звесткі пра дакументы па гісторыі Царквы ў Беларусі XV-XIX стст., што захоўваюцца ў фондзе «Канцылярыя мітрапаліта грэка-уніяцкіх цэркваў у Расеі» Расейскага дзяржаўнага гістарычнага архіву ў Санкт-Пецярбурзе.



**ВЯНОК АКАФІСТАЎ.**
(Пераклад са стараславянскай і польскай).
*Полацак, «Сафія», 1999. 264 с. Наклад 400 асобнікаў.*
У збор гімнаграфічнае спадчыны ўключаныя творы Ф.Скарыны, С.Полацкага і творы, прысвечаныя выдатным духоўным асобам Полацкае зямлі — святой Еўфрасінні і святому мучаніку Язафату.

Царква
грэка-каталіцкая газета
№ 1 (24), 2000

Адрас рэдакцыі:
вул.Дворнікава, 63
224014 г.Берасце
Беларусь
Тэл./факс: (0162) 24-74-82

**Заснавальнік і выдаевц:**
Берасцейская грэка-каталіцкая парафія святых братоў апосталаў Пятра і Андрэя
**Пасведчаньне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 27.11.1997 г.
**Галоўны рэдактар:** святар Ігар Кандрацьеў
**Рэдактар:** Ігар Бараноўскі
**Падпісана ў друк:** 12 сакавіка 2000 году, а 22-30
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (пасв. № 836), вул. Мініна, 23-106, г.Менск. **Замова №**
**Аб'ём** — 2,0 ул.-выд.аркушы. **Наклад** 1100 асобнікаў.

***Наш разліковы рахунак № 3015200210017 у Берасцейскім філіяле № 2 КБ "Абсалютбанк", МФО 150501242***

*Газета выдаецца на ахвяраванні. Шчыра дзякуем і молімся за ўсіх нашых ахвярадаўцаў!*